НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 17 (758) 2 мая 2012

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістапад... 1906 ... Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



## Хлопец скокнуў з 25-павярховіка ў Каменнай Горцы

Ён працуе каскадзёрам і не баіцца міліцыі. Старонка 8.



## Радаўніца ў цыганоў

Жыццё цыганоў у Барысаве і Славакіі. Старонкі 6—7.

# Заробкі беларускія, цэны расійскія

**Цэны працягваюць расці.** Тым часам Федэрацыю прафсаюзаў турбуюць санкцыі. **Старонка 5.**




**Афіцыйны Першамай у Баранавічах.**

ЛЮДМІЛА ПРАКОПАВА, INTEX-PRESS

Каментар

## Пуцін, будучыня Расіі і будучыня Беларусі

Пуцін, безумоўна, — разумны чалавек і таленавіты палітык.

Ён не п’е, як Брэжнеў, не хварэе, як Андропаў, і не параноік, як Сталін. Ён не прастак, як Мікітка, і не стары, як Чарненка. Ён не робіць рэформаў, як Гарбачоў, і не дэмакрат, як Ельцын. Ён не чайнік у эканоміцы і бяспецы. Ён працаздольны і арганізаваны. Лепшага выбару ў прыхільнікаў моцнай рукі і нацыяналістычнага курса быць не можа. І вось жа ўдача — Пуцін трапіў у перыяд гістарычна рэкордных, касмічна высокіх цэнаў на энергарэсурсы, якія ўтвараюць львіную долю прыбыткаў Расіі. Карацей, усё сышлося.

Што ж мы маем у выніку?

Расійскі ВУП сёлета вырасце на працэнты 3. Зусім мала, калі ўлічыць, што барэль нафты каштуе за 100 даляраў. Па-за нафтагазавай сферай ВУП увогуле... не расце.

Насельніцтва Расіі працягвае скарачацца ўсе гады кіравання Пуціна. Гэта пры тым, што ў Расію валам валяць гастарбайтары з суседніх краін — бедных, а часта наўмысна даведзеных да галечы задзёртымі коштамі газу.

Расійская інфраструктура... Яе кожны можа пабачыць — пераедзьце мяжу пад Смаленскам.

Капітал уцякае з Расіі. Зарабіўшы грошы, расіянін не хоча жыць у Растове, ён купляе сабе кватэру ў Нью-Джэрсі.

**Працяг на старонцы 3.**

Палітыка

### Сталінскі жэст Лукашэнкі

Схаваная далонь у расшпіленай куртцы. **Старонка 3.**



Музыка

### Песні паўсталых рабоў

«Ляпіс Трубяцкой» выдаў альбом «Рабкор». **Старонка 2.**




Здарэнні

### Азербайджанцы разбіліся на МКАД

На месца аварыі з’ехалася 200 іх суайчыннікаў. **Старонка 10.**



Гісторыя

### Калі б Балаховіч перамог

Выйшла ўнікальная кніга пра Станіслава Булак-Балаховіча. **Старонка 13.**



# МААП уявіў сябе АМАПам

**Ваенізаваная дружына БРСМ перашкаджала працы журналістаў.**

Малойчыкі ў чорнай форме з абрэвіятурай «МООП» на грудзях сачылі за парадкам падчас першамайскага мітынгу БРСМ, прысвечанага адкрыццю працоўнага семестра. Яны сталі на шляху журналістаў недзяржаўных СМІ, якія кіраваліся на пляцоўку каля стэлы «Мінск — Горад-Герой» здымаць мітынг.

Хлопцы пачалі перашкаджаць працы: закрывалі рукамі аб'ектывы, не пускалі падысці бліжэй да ўдзельнікаў. На пытанне, чым абумоўленыя іх дзеянні, паўтаралі: «Здымаць забаронена!» На пытанне, хто яны, уласна, такія, спрабавалі хаміць: «Вы не мой камандзір, я не абавязаны вам адказваць».

МООП (МААП) — гэта Маладзёжны атрад аховы правапарадку, створаны пры БРСМ. Яго дзейнасць рэгламентуе «Палажэнне пра Маладзёжныя атрады аховы правапарадку», прынятае ЦК БРСМ 28 сакавіка 2012. «Байцы» МААП маюць права ўдзельнічаць у ахове грамадскага парадку сумесна з органамі МУС. Пра тое, што ім можна перашкаджаць журналістам, у «Палажэнні» нічога не напісана.

«Паводле заканадаўства, журналісты маюць права прысутнічаць без акрэдытацыі на масавых мерапрыемствах у грамадскіх месцах, — кажа юрыст, сябра Беларускай асацыяцыі журналістаў Андрэй Бастунец. — Перашкода ж законнай прафесійнай дзейнасці журналіста прадугледжвае адказнасць па артыкуле 198 Крымінальнага кодэкса».

Дарэчы, пакаранне за парушэнне артыкула 198 — ад штрафу да трох гадоў турмы.


PHOTO.BYMEDIA.NET

Сяргей Мікулевіч

# Песні паўсталых рабоў

**«Ляпіс Трубяцкой» выдаў альбом «Рабкор».**

«Раззлаваў хам шклоўскага пана, радзіўся беларусам, стаў цыганам...» «Хам» і «цыган» — гэта Міхалок пра сябе. Гурт «Ляпіс Трубяцкой» на Першамай выклаў у інтэрнэце доўгачаканы альбом «Рабкор».

«Ляпісы» сённяшняга, сацыяльна-змагарскага перыяду творчасці маюць складаную задачу. Іх простыя як удар молата песні створаныя для выканання на канцэртах. Але сярод грукату апаратуры і шаленства публікі часта губляюцца словы. А слухаць іх варта. Гэта адзіная прычына, па якой «Трубяцкія» яшчэ запісваюць альбомы: каб слухачы вучылі тэксты і маглі падпяваць.

У альбоме ёсць некалькі ўжо вядомых хітоў: гімн «Не быць скотам» на словы Купалы; парадыйная «Пуцінарода», тэкст якой сабраны са штампаў тэлепрапаганды «стабільнасці»; «Цмок ды арол» — асабістая рэч, у якой адлюстраваўся перыяд вымушанага жыцця Міхалка ў Маскве: пракуратура ладзіла праверку яго жорсткіх выказванняў пра Лукашэнку.





Канцэрт Міхалка ў Смаленску для беларусаў.

Рэшта — новыя песні. Пачынаецца альбом з інтра — «Приятно жить в плену хмельного сна, упав на дно весенней теплой лужі». З гэтай лужыны «Ляпісы» будуць слухача падымаць.

У песні «Рабкор» — канцэпцыя альбома. Агульнай праблемай Мінска, Кіева, Масквы, Астаны музыкі называюць «рабскае кляймо» і ўладу «Адольфа Вісарыёнавіча Сатаны». Яму «Ляпісы» процістаўляюць музыку паўсталых рабоў — рабкор.

«Успомні браняносец Пацёмкін — выплюнь гнілое мяса!» — агітуюць яны ў песні «Ты ні пры чым» І заклікаюць забіваць у сабе раба, не быць скотам і ліліпутам.

Ёсць у альбоме і музычна нечаканая полька «Маеш яйцы?!»

У яшчэ адной песні па-беларуску «Панас» (усяго ў альбоме 4 беларускамоўныя кампазіцыі з 12) яны зычаць нядобрага канца нядобраму чалавеку: «Музыка іграе, здох Панас. Новае жыццё, новы час».

«Ляпісы» неахвотна даюць інтэрв'ю. І перадапошняя песня альбома «Жалезны» — гэта адказ на пытанне, ці не баяцца яны праследу: «Я мусіў здохнуць дваццаць гадоў назад — чаго мне баяцца за мой жалезны зад?»

Пад заслону гучыць самаіранічная Lyapis Crew. У ёй Міхалок і Булатнікаў — зноў блазны, якія кпяць з уласнай папулярнасці і моднасці. Успамінаецца «К нам прыехаў Трубяцкой». Шкада, што «Трубяцкой» не можа легальна выступіць у Беларусі.

СМ

## Сціслa

**Спецназ сарваў паказ фільма**

На сядзібе «Свабоднага тэатра» планаваўся сеанс брытанскага фільма «Апошні дыктатар Еўропы». У дом уварваўся спецназ — выбілі дзверы. Людзей паставілі тварам да сценкі. Затрыманых адвезлі ў Савецкім РУУС, дзе ім адкаталі адбіткі пальцаў, зрабілі фатаграфіі і ўзялі тлумачэнні.

**Пасля першамайскай дэманстрацыі Пуцін і Мядзведзеў пайшлі піць піва**

Расійскія тэлеканалы прадэманстравалі кадры, на якіх прэзідэнт і прэм'ер прайшліся ў калоне і пасядзелі за півам у рэстаране.

**Пасведчанне кіроўцы будзе каштаваць 200 тысяч**

З 19 ліпеня дзяржпошліна за атрыманне (абмен) вадзіцельскага пасведчання ў Беларусі складзе 200 тыс. рублёў. Гэта звязана з ростам базавай велічыні.

**У Твітары 340 тысяч беларусаў**

З іх 57% — жанчыны, 51% мае вышэйшую адукацыю, амаль 59% жывуць у Мінску. 24% — ва ўзросце 19—24 гадоў, 20% — 25—34 гадоў. Штодня гэтую сацыяльную сетку наведваюць у сярэднім каля 67 тысяч нашых суайчыннікаў.

**Актывісты зладзілі талаку на сядзібе садавода Сікоры**

Каля 20 чалавек сабраліся на талаку 29 красавіка на сядзібе садавода-селекцыянера Івана Сікоры ў вёсцы Малыя Алашкі Шаркаўшчынскага раёна. Прыехалі Ганна Базарэвіч з Браслава, Ада і Алег Райчонкі з Германавічаў, Зміцер Курцэвіч з Дзеркаўшчыны, Міхал і Лілія Гілі, Ігар Пракаповіч з Паставаў.

**Пашпарты будуць выдавацца на 10 гадоў**

Сёлета пасля ўступлення ў сілу ўказа №197 ад 19 красавіка пашпарты будуць выдавацца на 10 гадоў. Аб гэтым паведаміў журналістам начальнік аддзела па пашпартнай працы і выездзе за мяжу дэпартамента па грамадзянстве і міграцыі МУС Беларусі Дзмітрый Леўчанка. Раней пашпарты выдаваліся ў 16 гадоў і іх трэба было мяняць у 25, 45 і 100 гадоў.

ЛМ, ЗП, westki.info

**Самае чытанае на сайце nn.by за 25 красавіка — 1 мая**

1. «Чарнобыльскі шлях» пад зубоўны скрыгат уладаў
2. Ад сёння даражэюць хлеб, малако і асабліва гарэлка
3. Экстрэмал скочыў з 25-паверховага дома ў Каменнай Горцы — відэа
4. Радаўніца ў цыганоў — фотарэпартаж
5. «Хартыя» выкрыла чарговы траян спецслужбаў
6. Сталінскі жэст Лукашэнкі + фота
7. Затрымалі дзяўчыну, якая вітала шэсце сцягам з балкона
8. У Днепрапятроўску прагрымелі выбухі
9. Хлопец, якога шукае ўвесь Мінск, прапануе «забыцца» пра сваё знікненне
10. «Раззлаваў хам шклоўскага пана»: новы альбом «Ляпіса Трубяцкога»

# Сталінскі жэст Лукашэнкі

**Ён усё часцей хавае далонь правай рукі ў расшпіленую куртку.**

Першы раз такая пастава была зафіксаваная ў часе візіту Лукашэнкі ў Вільню ў 2009-м. Тады журналісты «Камсамольскай праўды» з дапамогай псіхолагаў расшыфравалі гэтую паставу як «жэст пераможцы, які змог схаваць ад навакольных нейкую праўду, схітраваць», а таксама як жэст стратэга.

Падабенства са Сталіным найбольш красамоўна праявілася на фота, зробленым у лютым 2011-га, калі Лукашэнка наведаў брыгаду ў Соснах. Правая рука характэрным жэстам схаваная ў паліто паміж гузікамі. Побач Жадобін у вайсковай форме. Асацыяцыя з Бацькам народаў просіцца сама сабой.

Потым засунутая ў паліто ці куртку рука Лукашэнкі стала трапляць у кадр усё часцей. У свежых рэпартажах дзяржаўных тэлеканалаў пра паездку па Магілёўшчыне «сталінскі жэст» амаль не выходзіць з кадра.

Гэтым разам усё часцей гучаць версіі пра тое, што прыцісканне да грудзей рука кажа пра жаданне ўтварыць псіхалагічны бар'ер паміж сабой і суразмоўцамі. Або магчымыя праблемы з сэрцам. Калі сэрца пабольвае, чалавек міжволі прыціскае далонь да грудзей. Зрэшты, пытанні здароўя Лукашэнкі застаюцца закрытыя і гэта часам спрыяе нараджэнню чутак.

**Сямён Печанко**





**Сталін хварэў, Напалеон пазіраваў**

Гісторык Алесь Пашкевіч кажа, што жэст Іосіфа Сталіна быў вымушаны. Па адной з версій, у дзяцінстве Сталін трапіў пад фаэтон, у выніку чаго скалечыў левую руку. Яна ўсохла і стала карацейшай за правую. Па іншай версіі, руку ён скалечыў у часе аднаго з налётаў на банк.

Сталін хаваў сваю хворую руку паміж расшпіленых гузікаў кіцеля, часам за спінай або трымаў у гэтай руцэ люльку. Вобраз Сталіна з люлькай у руцэ не менш папулярны, чым са схаванай у кіцелі далонню.

Многія даследчыкі прыпісвалі хваробе і паходжанне падобнага жэста ў Банапарта Напалеона. Маўляў, той такім чынам грэў хворы страўнік. Аднак даследчыца Арлайн Мілер мяркуе, што гэты жэст быў папулярны сярод адукаваных мужчынаў яшчэ задоўга да нараджэння Напалеона. Многія пазіравалі партрэтыстам так. Сапраўды сусветную славу такі жэст набыў пасля таго, як перад мастаком Жакам Давідам паўстаў Напалеон. Пасля карціны «Напалеон у працоўным кабінеце» такую паставу пачалі называць «напалеонаўскай».

Парадныя партрэты зафіксавалі такую звычку сярод шэрагу вядомых гістарычных персанажаў. Гэта першы прэзідэнт ЗША Джордж Вашынгтон, першы прэзідэнт Вялікай Калумбіі і Балівіі Сімон Балівар, Саламон Ротшыльд — заснавальнік аўстрыйскай галіны дынастыі знакамітых банкіраў.

Даследчыкі масонства бачаць у гэтым падабенстве патаемную сувязь паміж гэтымі гістарычнымі персанажамі і схільныя далучыць да іх кампазітара Вольфганга Моцарта і тэарэтыка камунізму Карла Маркса. Але нельга выключаць, што напалеонаўская версія мастацтвазнаўцаў наконт жэста «схаванай рукі» справядлівая і ў дачыненні да вышэйпамянёных асобаў.

# Пуцінарода

**7 мая адбудзецца інаўгурацыя Уладзіміра Пуціна.**

Палітык у трэці раз (з перапынкам на чатыры гады, калі пасаду займаў Мядзведзеў) стане прэзідэнтам Расіі.

### «Уздыманне з каленяў»

Нельга сказаць, што гэтае пераабранне стала лёгкім для Пуціна. Упершыню за доўгі час у Расіі адбыліся шырокія акцыі пратэсту.

Лозунг «Выбары без жулікаў і злодзеяў» стаў папулярным, але не настолькі, каб пераафарміцца ў перамены.

З імем Пуціна звязваюць эканамічны ўздым Расіі пасля 1990-х. Перамогі ў хакеі і «Еўрабачанні», грузінскі канфлікт падмацоўвалі імідж таго, што Расія «ўстае з каленяў». І Пуцін быў абліччам гэтага патрыятычнага хвалявання. Цяпер скарыстаць такую фішку будзе складаней.

Расія зноў загаварыла пра сусветныя амбіцыі. Пры гэтым застаюцца нявырашанымі балючыя праблемы карупцыі і п'янства. Калі карыстацца еўрапейскімі меркамі, то чвэрць насельніцтва жыве за мяжой галечы.

Востра стаіць пытанне міжнацыянальных адносін. Інцыдэнт на Манежнай з бойкай фанатаў і каўказцаў з гэтага самага пераліку.

Пры высокіх цэнах на нафту Расія мае толькі 4% росту эканомікі ў 2011.

### Еўразійскі прыярытэт

Пуцін абвясціў, што прыярытэтам новага тэрміну будзе еўразійская інтэграцыя. Сёння гаворка вядзецца пра «тройку» Мытнага саюза (Расія, Беларусь, Казахстан). Але сапраўдный мэтай была б Украіна, якую, нягледзячы на дарагі газ, Януковіча і крызіс у Еўрасаюзе, не ўдаецца зацягнуць у еўразійскую прастору.

Лукашэнка неаднаразова іранічна выказваўся пра Дзмітрыя Мядзведзева, з якім яму было цяжка знаходзіць супольную мову. Кіраўнікі Беларусі і Расіі маглі не сустракацца з вока на вока цэлы год. Выглядае, што з Пуціным Лукашэнку дамаўляцца прасцей. Ён некалькі разоў вітаў ягонае вяртанне ў прэзідэнцкае крэсла. Хоць зрэшты, ці магло быць інакш?

### «Мяняецца тактыка, а не стратэгія»

Ці зменіцца нешта ў беларуска-расійскіх адносінах пасля інаўгурацыі Пуціна?

«У расейскага кіраўніцтва мяняецца толькі тактыка, яна можа быць больш ці менш інтэнсіўнай, агрэсіўнай ці не, але не мяняецца стратэгія адносна Беларусі, — мяркуе палітык Вінцук Вячорка. — Расія будзе імкнуцца да захопу эканамічнага патэнцыялу з далейшым аслабленнем Лукашэнкі, каб лягчэй на яго ціснуць».

Тым не менш, Вячорка лічыць, што Расія не адважыцца на змену ўлады ў Беларусі, бо Лукашэнка адпавядае яе інтарэсам. «Лукашэнка душыць нацыянальны патэнцыял краіны, моўны — гэта адпавядае інтарэсам Расіі».

«Вонкавыя прыкметы незалежнасці будуць заставацца. Наўрад ці пасля Грузіі Расія адважыцца на нешта большае», — лічыць Вячорка.

«Ды нічога не зменіцца. Якая розніца, ці там Мядзведзеў ці Пуцін? — кажа блогер Яўген Ліпковіч. — Я называю Расію рынкам збыту, фінансавым, інтэлектуальным і энергетычным прыдаткам Беларусі».



**Гадаванец мінскага Універсітэта культуры стаў адным з самых папулярных карыкатурыстаў Расіі. Дзяніс Лапацін адкрыў выставу ў Петрапаўлаўску-Камчацкім. Праўда, перад пачаткам зніклі некаторыя карыкатуры на Пуціна і Мядзведзева.**

### Ці сапраўды ідылія?

Эксперт Фінскага інстытута міжнародных адносін Аркадзь Мошэс лічыць, што Расіі бліжэйшым часам нават не ўдасца прыбраць да рук «фамільнае срэбра» Беларусі.

«Лукашэнка яшчэ не трапіў у безальтэрнатыўную залежнасць ад Расіі і здавацца не збіраецца. У той жа час, з пункта гледжання Крамля, знайсці замену Лукашэнку цяжка», — кажа Мошэс.

Лукашэнка ў Быхаве казаў, што на сёння з Расіяй вырашаныя ўсе пытанні і вострых вуглоў не засталося. Тым не менш, частка аналітыкаў схільная бачыць у вызваленні Саннікава і Бандарэнкі не ўльтыматумы і санкцыі ЕС, а магчымае пагаршэнне адносін з Расіяй. Пасля расійскіх прэзідэнцкіх выбараў ужо выплывала спрэчка між «Белавіяй» і «Аэрафлотам». Нават на дзяржаўных тэлеканалах прызнавалі, што ўзнікнуць і наступныя.

**Зміцер Панкавец**

**Каментар**

# Пуцін, будучыня Расіі і будучыня Беларусі

Працяг са старонкі 1.

Праблема Пуціна дубль два ў тым, што яму больш няма на каго ківаць. Ён кіруе Расіяй ужо 12 гадоў. (Лукашэнка Беларуссю — аж 18, і ён у такой самай сітуацыі.) Гэта раней былі вінаватыя камуністы, развал Саюза, Ельцын. І на Захад не спіхнеш віны — палітыка ж самастойная. (У Беларусі цяпер спрабуюць валіць на візавыя санкцыі Захаду — смех.)

Пры ўсёй сіле Пуціна-палітыка змяніць, палепшыць Расію яму не ўдалося. Ён застаецца папулярным, бо нафтагазавыя даходы дазваляюць паднімаць заробкі. Але мадэль, якая захоўвае шматлікія рысы савецкага ладу і нават, глыбей, дасавецкай Расіі, працягвае падточваць краіну з гіганцкімі рэсурсамі.

І гэта мае ясныя эканамічныя тлумачэнні.

Дэмакратыя — гэта самая эканомная сістэма. Пуцін адмовіўся еўрапеізаваць палітычны лад і грамадства — але аўтарытарызм каштуе грошай.

Пуцін адмовіўся адпусціць на свабоду народы Каўказа — але лаяльнасць трэба купляць.

Пуцін бачыць стратэгічнай мэтай захаваць імперыю, хай у мяккай форме, таму і спансаруе адзін толькі рэжым Лукашэнкі мільярдаў на сем даляраў у год. А такі Лукашэнка ў Крамля не адзін. Гэта тыя самыя грошы, на якія можна было б адбудаваць дарогі і адправіць дурняў на курорт — дзве адвечныя расійскія праблемы.

12 гадоў кіравання Пуціна калі што і паказалі, дык тое, што Расіі для сапраўднага развіцця патрэбныя далейшыя рынкавыя рэформы, а таксама той дух канкурэнцыі і творчасці, які забяспечваецца ў заходняй мадэлі грамадства. Расійская эліта разумее гэта, але цынічна захоўвае стары лад, бо пры ім... прасцей узбагачацца. На радасць плебсу праскрыпцыі падверглі Беразоўскага, Хадаркоўскага, але ж легіёны роўных ім працягваюць купацца ў нафтадалярах. І сябры Пуціна сярод іх.

Няма прычын думаць, што адносіны Расіі з Беларуссю ў трэцюю шасцігодку Пуціна будуць істотна інакшымі, чым раней. Застанецца і фундаментальная праблема гэтых адносін — тое, што ў рамках гэтай мадэлі Беларусі адведзена роля васала Пуціна — бяднейшага, хоць і індустрыяльнага дадатку да сыравіннай Расіі.

**Андрэй Дынько**

Фотафакт



**Затрымалі дзяўчыну, якая ўзняла сцяг на балконе**

Міліцыянты прыйшлі ў кватэру Валянціны Дваракова́й.

Дзяўчына падчас кожнай буйной акцыі вітае ўдзельнікаў узняццем бел-чырвона-белага сцяга на балконе кватэры. Гэта прыгожа і дадае настрою ўдзельнікам.

На гэты раз міліцыя ўчынак Валянціны не пакінула не заўважаным. Дваракову адвезлі ў Савецкі РУУС, дзе склалі пратакол нібыта «за парушэнне парадку арганізацыі і правядзення масавых мерапрыемстваў» і ўзялі адбіткі пальцаў.

«Апошнія падзеі не прынеслі нічога добрага, таму не хочацца пра гэта гаварыць», — сказала нам Валянціна. Ёй 21 год, навучаецца на гістарычным факультэце БДПУ.

ЗП

# Скайп застаецца бяспечным

Але праз праграму цяпер можна вызначыць **месцазнаходжанне карыстальніка**.

У інтэрнэце з'явіўся сэрвіс, які істотна зменшыў ступень бяспекі папулярнай праграмы Skype. Цяпер, зайшоўшы на сайт www.skype-ip-finder.tk і надрукаваўшы імя карыстальніка, кожны можна вылічыць IP-адрас камп'ютара, з якога абанент выйшаў у сетку. З гэтай інфармацыі можна даведацца, у якім горадзе знаходзіцца чалавек, аднак даведацца яго дакладны адрас складаней.

Для аматараў гэта магчымасць бачыць, дзе знаходзіцца калега ці сяброўка. Сэрвісам могуць карыстацца і спецслужбы, каб высачыць знаходжанне таго ці іншага карыстальніка скайпа. Раней яны мелі такую самую магчымасць, атрымліваючы інфармацыю з сім-карткі мабільніка, калі ў ім стаяла батарэя.

У той жа час паведамленні, пасланыя праз скайп, па-ранейшаму можна перахапіць, толькі калі ўсталяваць на камп'ютар вірусную праграму. А вось аўдыёразмовы застаюцца недасяжныя для спецслужбаў.

ЯМ

**Skype**

найбольш бяспечная праграма для камп'ютарных размоваў. Бясплатныя званкі і відэазванкі можна рабіць іншаму карыстальніку ў любой кропцы планеты.

# Вясна: паслы прыляцелі

Нягледзячы на рэзкія заявы, Лукашэнка выконвае **план дээскалацыі** адносінаў.

Пасля двух месяцаў дыпламатычнага канфлікту на месцы працы вярнуліся як паслы Еўрасаюза, так і Беларусі. У апошнія дні зімы ў адказ на пашырэнне візавых санкцый супраць беларускіх чыноўнікаў афіцыйны Мінск параіў кіраўнікам дыпмісій Польшчы і Еўрасаюза выехаць у свае сталіцы на кансультацыі. Адклікаліся і беларускія амбасадары з Варшавы і Брусэля.

Такія паводзіны не засталіся незаўважанымі. На экстраным пасяджэнні Рады ЕС было прынятае рашэнне адклікаць усіх еўрапейскіх амбасадараў з Мінска. Рашэнне было выкананае.

Лукашэнка прызнаваўся, што такі дэмарш нанёс шкоду дзяржаве. А таксама казаў, што будзе сам вырашаць, каго з паслоў упускаць у краіну, а каго — не. «Але гэта не мае нічога супольнага з тым, што мы хочам перашкодзіць паслам. Гаварыць пра тое, што мы не пусцім, не выпадае. Нам з кімсьці гаварыць трэба? Трэба», — адзначыў Лукашэнка.

Напярэдадні вяртання паслоў у Мінск карэспандэнт «НН» меў гутарку з кіраўніком дыпмісіі Славакіі Марыянам Серваткам. «Я хачу вярнуцца ў Беларусь, бо я пасол там, а не тут. Я спадзяюся, што гэта быў кароткі ад'езд, а вяртанне будзе спакойным», — адзначыў дыпламат.

Вяртанне стала магчымым пасля таго, як Лукашэнка адпусціў з турмаў Андрэя Саннікава і Змітра Бандарэнку. Гэта быў першы крок па дээскалацыі канфлікту.

«Можна сказаць, што гэты канфлікт крыху навучыў. У большай ступені беларускі бок, бо, гледзячы па ягонай рэакцыі, пасольскі дэмарш усё ж такі стаў для яго нечаканым. Таму наступным разам такая магчымасць ужо будзе ўлічвацца», — лічыць аглядальнік Андрэй Фёдараў.

Наступнымі крокамі па наладжванні стасункаў магло б стаць вызваленне астатніх палітвязняў. У такім выпадку Еўрасаюз гатовы зняць санкцыі ў дачыненні беларускіх уладаў. Пра гэта казаў шведскі міністр замежных справаў Карл Більт. Здаецца, што такое развіццё падзей, прынамсі, часткова задаволіла б абодва бакі.

Лукашэнка намякнуў, што наступныя вызваленні могуць адбыцца падчас амністыі да Дня рэспублікі 3 ліпеня.

**Зміцер Панкавец**

Фотафакт



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## «Чарнобыльскі шлях» пад зубоўны скрыгат улады

У Мінску прайшло традыцыйнае шэсце на 26 красавіка. У ім узялі ўдзел 2 тысячы чалавек. Галоўнымі тэмамі акцыі сталі «Не — Астравецкай АЭС» і вызваленне палітвязняў. На «Шлях» прыйшло багата інтэлігенцыі (Генадзь Бураўкін, Зміцер Вайцюшкевіч, Сяргей Законнікаў, Алег Трусаў) і моладзі. Па сканчэнні акцыі спецназ пазатрымліваў маладафронтаўцаў. Хлопцы атрымалі адміністрацыйныя арышты.

ЗП

## «Хартыя» выкрыла чарговы вірус спецслужбаў

Ён хаваўся пад выглядам **зліву з Адміністрацыі прэзідэнта**.

Беларускія спецслужбы працягваюць спробы заразіць камп'ютары незалежных журналістаў і грамадскіх дзеячаў траянскімі праграмамі, якія б перасылалі канфідэнцыйную інфармацыю. Папярэдняя такая сетка была абясшкоджана ў пачатку студзеня 2012-га. Гэтым разам траянскую праграму даслалі праз Skype ад невядомага карыстальніка Ірыне Халіп, жонцы Андрэя Саннікава. Файл вонкава выглядаў як малюнак і ўтрымліваў фота нібыта дакумента з пералікам пытанняў для абмеркавання на тэрміновай нарадзе ў Лукашэнкі па пытанні Саннікава, а таксама цела траяна, які незаўважна для карыстальніка ўсталёўваўся ў сістэму.

Аналіз праграмы дазволіў ідэнтыфікаваць яе як бот Andromeda, які прадаецца ў інтэрнэце ад $300 да $900. У спісе заражаных аказаўся нават камп'ютар расійскага мільярдэра Аляксандра Лебедзева, які валодае «Новай газетай».

З вірусам пасяхова змагаюцца ўсе сучасныя антывірусы з абноўленымі базамі. Тым жа, хто падазрае, што стаў ахвярай траянскай праграмы, спецыялісты раяць пераўсталяваць аперацыйную сістэму і змяніць паролі ад акаўнтаў у сацыяльных сетках.

ЯМ

## Сціслa

**БНФ вылучыць на парламенцкіх выбарах 30—40 кандыдатаў**

Сярод іх лідар партыі Аляксей Янукевіч і былы кандыдат у прэзідэнты Рыгор Кастусёў. Калі палітвязняў не выпусцяць, усе яны здымуцца

**На сустрэчы з Мядзведзевым гаварылі пра Бяляцкага**

Беларуская праблематыка закранулася на пасяджэнні Савета па правах чалавека пры прэзідэнце РФ 28 красавіка. Прэзідэнт Расіі заявіў аб непрымальнасці пераследу палітычных апанентаў.

**Прыязджаў Бердымухамедаў**

Сучасны Туркменістан стаў для Беларусі сапраўдным стратэгічным партнёрам, заявіў Лукашэнка. Сёння 6 тысяч туркменскіх студэнтаў атрымліваюць адукацыю ў беларускіх ВНУ.

**Фазель супраць адмены чэмпіянату па хакеі ў Мінску**

Кіраўнік федэрацыі хакея лічыць, што адмена ЧС-2014 была б «дыскрымінацыяй па палітычных прычынах».

ЗП

# Заробкі беларускія, а цэны расійскія

29 красавіка **падаражэлі** «сацыяльныя» хлеб і малако.

Канец красавіка адзначыўся павышэннем «сацыяльных» цэнаў у крамах. На 10% падаражэлі пэўныя танныя віды малака, смятаны і тварагу, на 5% — хлеб. Менавіта па іх пенсіянеры стаяць у чэргах ад раніцы, ашчаджаючы па 1000—2000 рублёў.

Падаражэла і гарэлка. Чакаецца рост цэнаў на камунальныя паслугі. З прыкідкай на будучыню, відаць, ад 1 мая індэксуюцца працоўныя пенсіі — аж на 18%, што апярэджвае рост цэн, які адбыўся за люты-красавік.

Пастанова №35 Міністэрства эканомікі, якая зацвердзіла новыя адпускныя цэны, з'явілася невыпадкова. Папярэдняе пажарнае рэгуляванне рабілася роўна год таму, калі цэны толькі пачыналі расці на фоне дэфіцыту валюты. Заніжаныя цэны на самыя танныя прадукты вырашана пратрымаць яшчэ некаторы час. Аднак купіць той самы тварог ці кефір па гэтай цане можна не ў кожным горадзе. Таму большасць беларусаў усё адно плаціць за прадукты даражэй — па рынкавай цане. «Несацыяльнае» малако каштуе ў крамах 4500—7000 рублёў. Згодна з пастановай Міністэрства эканомікі, гэтая цана расці не будзе.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

| Прадукт | Цана ў Мінску, май 2011 | Цана ў Мінску, май 2012 | Цана ў Маскве*, май 2012 |
|---|---|---|---|
| Хлеб, 500 г | 1 300 | 4 800 | 6 500 |
| Малако, 3,2%, 1 л | 1 800 | 4 550 | 10 100 |
| Кефір, 3,2%, 1 л | 1 850 | 4 950 | 11 300 |
| Каўбаса вараная, в/с, 1 кг | 8 500 | 35 500 | 41 000 |
| Яйкі, С1, 10 шт | 2 700 | 10 500 | 9 200 |
| Грэчка, 900 г | 10 900 | 8 900 | 12 300 |
| Рыс, 900 г | 4 250 | 8 200 | 11 700 |
| Алей, 1 л | 7 400 | 13 300 | 16 200 |
| Цукар, 1 кг | 3 600 | 7 500 | 8 000 |
| Агуркі, 1 кг | 8 000 | 17 900 | 27 000 |
| Бананы, 1 кг | 6 200 | 12 900 | 12 600 |
| Гарэлка, 0,5 л | 9 000 | 22 900 | 27 000 |
| Піва, мясцовае, 0,5 л | 1 750 | 6 150 | 7 200 |
| Нектар, 50%, 1 л | 3 000 | 7 850 | 9 500 |
| Снікерс, 55 г | 2 200 | 5 800 | 5 500 |
| Сярэдні заробак | $670 (сакавік 2011) | $506 (сакавік 2012) | $1450 (люты 2012) |

*у сеткавай краме; у беларускіх рублях па курсе Нацбанка

Што датычыць моцнага алкаголю, тут падкарэктавалі мінімальныя цэны. Гэта робіцца, каб прадухіліць спробы дэмпінгу – наўмыснага заніжэння цэнаў, каб выціснуць з рынку канкурэнтаў. Напрыклад, гарэлку раней можна было прадаваць не танней за 9400 рублёў, а цяпер — не танней за 19 600 рублёў. Аднак знайсці гарэлку па такіх цэнах у крамах паранейшаму немагчыма.

Але «новых» цэнаў усё адно мала, каб зрабіць іх супастаўнымі з тымі, што існуюць у Расіі. Менавіта такую мэту мае перад сабой урад Беларусі. «Наша Ніва» параўнала цэны ў папулярных мінскіх крамах «Еўраопт» з тымі, што можна сустрэць у маскоўскіх крамах.

Як вынікае з табліцы, розніца ў цэнах на некаторыя прадукты паміж Масквой і Мінскам усё яшчэ дасягае 15—20%, прытым што сярэдні заробак у расійскай сталіцы большы амаль у тры разы. Разам з тым, частка тавараў, напрыклад, яйкі, ужо каштуе даражэй, чым у Расіі. Варта ўлічыць, што цэны ў «Еўраопце» прыкладна роўныя сярэднебеларускім, тады як у расійскай правінцыі яны ніжэйшыя, чым у Маскве.

Апроч таго, мы занеслі ў табліцу «настальгічныя» цэны з каталога тавараў таго самага «Еўраопта» за май 2011 года. У гэтыя лічбы цяжка паверыць, але з 15 пералічаных прадуктаў даражэй за 10 тысяч рублёў каштавала толькі грэчка. Парадаксальна, але яна за крызісны год... нават патаннела.

**Ягор Марціновіч**

## Беларусь «нагрэла» расійскі бюджэт на $700 мільёнаў?

Наша краіна стала найбуйнейшым у свеце **вытворцам распушчальнікаў**.

Беларускі эканамічны цуд пасля леташняга абвалу нацыянальнай валюты крыху паблякнуў, але шмат у чым дзякуючы падтрымцы Расіі краіна выплыла. Цяпер улады вяртаюцца да ранейшай рыторыкі і абяцаюць запаветныя $500 сярэдняга заробку. Краіна рыхтуецца да пасяўной, усе радуюцца поспехам у замежным гандлі — прыемныя будні планавай эканомікі.

Аднак адно дасягненне засталося без увагі — Беларусь за апошнія гады стала найбуйнейшым у свеце вытворцам нафтахімічнай прадукцыі. Не ўсёй, вядома, а асобных відаў. Для рэзкага прарыву на сусветныя рынкі краіна абрала даволі вузкі сегмент — распушчальнікі і разбаўляльнік, а таксама змазачныя матэрыялы.

### Сусветны лідар

Вынік прыйшоў хутка — у мінулым годзе на экспарт Беларусь паставіла распушчальнікаў і змазачных матэрыялаў у разы больш за традыцыйных лідараў гэтага рынку — Германію, ЗША і іншых краін. Сукупна ў 2011 годзе гэта прынесла Беларусі звыш $1,9 мільярда, хоць яшчэ годам раней — сціплыя $160 мільёнаў.

Паступленні валюты ад новых артыкулаў экспарту апынуліся супастаўнымі з выручкай «Беларуськалія» ад экспарту калійных угнаенняў — «нацыянальнага здабытку» Беларусі. Чаму ж такі грандыёзны поспех апынуўся незаўважаным беларускімі ўладамі?

### Загадкавая вытворчасць

Ужо першы погляд на разбаўляльна-змазачны бізнес узнімае масу пытанняў. Што гэта за невядомы інвестар, які стварыў такое буйное прадпрыемства? Як удалося ўмомант адцясніць сусветных грандаў і знайсці спажыўцоў? Адказы на гэтыя пытанні сведчаць, што поспех прынеслі інавацыі, але не вытворчыя, а падатковыя.

З 2011 года Беларусь стала бяспошлінна атрымліваць расійскую нафту і нафтапрадукты. Была абраная простая схема: нафтапрадукты, якія выбаўляюць на беларускіх НПЗ з расійскай нафты, ідуць на экспарт. Экспартная мыта, а яна складае каля $270 з кожнай тоны, пералічваецца ў бюджэт Расіі. Але яго дзеянне распаўсюджваецца толькі на энергетычныя тавары. Калі ж выпускаць з нафты хімічную прадукцыю, тады ніякай пошліны плаціць не трэба. Менавіта так і паступіла Беларусь — і стала выпрабляць з расійскай нафты і нафтапрадуктаў распушчальнікі і змазачныя матэрыялы. Так на свет з'явілася 2,2 мільёна тон гэтых матэрыялаў, хоць годам раней іх было выраблена на парадак менш.

### Рознагалоссі ў статыстыцы

Можна было б парадаваццa кемлівасці беларускіх нафтаперапрацоўшчыкаў, калі б не некалькі сумнеўных фактаў. Увесь сусветны экспартны рынак гэтага тавару да з'яўлення на ім Беларусі складаў не больш за 1,5 мільёна тон. А Беларусь за адзін год зрабіла звыш 2 мільёнаў тон, з якіх 1,5 мільёна паставіла на экспарт у Латвію!

Вось толькі ў Латвіі чамусьці афіцыйная статыстыка прыводзіць зусім іншыя лічбы — ніякага выбуховага росту імпарту з Беларусі не было. Затое латвійскія парты ажыццявілі рэкордную перавалку грузаў у 2011 г. — пагрузка нафтапрадуктаў у 2011 годзе якраз вырасла на 2,5 мільёна тон, а вадкіх хімікатаў, якімі з'яўляюцца растваральнікі і разбаўляльнік, набралася менш чым на 0,2 мільёна тон.

### Цуды пераўтварэння

Атрымліваецца, што беларускія распушчальнікі пры перасячэнні латвійскай мяжы ператвараюцца зноў у нафтапрадукты і наўпрост накіроўваюцца ў партовыя тэрміналы. Аналагічная сітуацыя і са змазачнымі матэрыяламі — уся Нямеччына і Францыя паставілі на экспарт амаль столькі ж, колькі і маленькая Беларусь.

На карысць таго, што ўся інавацыйная разбавіцельназмазачная вытворчасць зводзіцца пераважна да фіктыўнага мытнага афармлення, сведчыць і той факт, што звычайна распушчальнікі таргуюцца па цэнах, што перавышаюць $2000 за тону — гэта сапраўды дарагі тавар з высокай дададзенай вартасцю. А кошт беларускіх «распушчальнікаў» практычна супадае з коштам экспартаваных ёю нафтапрадуктаў — крыху больш за $800 даляраў за тону. Па змазачных матэрыялах розніца яшчэ большая — беларускія танней разоў у шэсць.

Такі беларускі «дэмпінг» фактычна азначае крадзеж з расійскага бюджэту больш за $700 мільёнаў толькі за мінулы год. Улічваючы маштаб уцягнутых рэсурсаў і высокі тэмп, з якім ён расце і сёлета, цалкам верагодна, што ўсё гэта адбываецца не без удзелу расійскіх нафтавых кампаній.

**Сяргей Агібалаў, «Новая газета» (Расія)**

**Ад Рэдактара.** Тое, што расійская газета апублікавала дадзенае расследаванне, можа азначаць, што Масква рыхтуе «меры рэагавання» на факт, які можа быць інтэрпрэтаваны як парушэнне Мінскам дамоўленасцяў аб умовах пастаўкі нафты і падзеле мытаў.

### Сціслa

**Мінчукі зарабілі па $500**

Паводле падлікаў Белстата, у сакавіку сярэдні заробак у Мінску дасягнуў 4,1 мільёна рублёў. Гэта $506 у эквіваленце.

**Пенсіі вырастуць у сярэднім на 18%**

З мая ў Беларусі павялічацца ўсе віды пенсійнай дапамогі. Працоўныя пенсіі вырастуць у сярэднім на 18,2%. У выніку максімальны памер пенсіі па ўзросце для непрацуючых пенсіянераў складзе з мая 2012 года 2,22 мільёна рублёў. Папярэдні раз пераразлік адбываўся ў лютым.

**Дэнамінацыя будзе не раней за 2013 год**

Па словах старшыні Нацбанка Надзеі Ермаковай, у наступным годзе ў Беларусі можа быць разгледжана пытанне аб дэнамінацыі беларускага рубля. Разам з тым, пытанне пра ўвядзенне на тэрыторыі Беларусі расійскага рубля не разглядаецца.

**ЯМ**

# Радаўніца ў цыганоў

Фотакарэспандэнт «НН» наведаў гарадскія могілкі Барысава, куды з’ехаліся **цыганы з усяго свету**.

На Радаўніцу беларускія цыганы з’язджаюцца на магілы продкаў. Няма краіны, дзяржавы, якая была б роднай для ўсіх цыганоў на свеце. Радзіма для іх вызначаецца па месцы пахавання дзядоў.

Санкт-Пецярбург, Кіеў, Лондан — з гэтых гарадоў прыехалі на Радаўніцу цыганы, продкі якіх пахаваныя на гарадскіх могілках у Барысаве.

Ушанаванне дзядоў з’яўляецца для іх ледзьве не галоўнай традыцыяй, якая яднае род. Таму і мае такі глабальны выгляд. За некалькі гадзін да пачатку памагатыя расстаўляюць сталы і лавы. Жанчыны гатуюць пачастунак. Страваў ніхто не злічыць, стол застаўлены імі так, што не застаецца месца для рук. За сталом збіраецца ўвесь род.

Калі род багаты, нябожчыкаў хаваюць у падрыхтаваныя родавыя склепы.

Склеп накрыты вялікай бетоннай плітой, уваход у яго — пад зямлёй. Каб пахаваць памерлага родзіча, дзверы трэба адкопваць. Ключы ад склепа захоўваюцца ў барона — галоўнага ў родзе.

Цыганскае святкаванне Радаўніцы сканчаецца абыходам усіх родавых і сваяцкіх склепаў. Ля кожнага вандроўнікаў абавязкова чакае накрыты стол.

**Фота і тэкст Сяргея Гудзіліна**



**На магілах родных цыганоў чакае багаты стол.**



**Калі род багаты, нябожчыкаў хаваюць у падрыхтаваныя родавыя склепы.**





**На могілкі бяруць з сабой нават самавар.**




**Цыганскае святкаванне Радаўніцы сканчаецца абыходам усіх родавых і сваяцкіх склепаў.**

# «Сегрэгацыя ў рамках закона»

**Цыганская меншасць** у Славакіі.



### Старааселыя і валашскія

У цэнтры Браціславы, проста ля Міхайлаўскай брамы (уваход у стары горад) цыганка з трыма малымі жабрачыць грошы. Жанчына ў стракатай вопратцы, з завушніцамі. Такіх самых неаднаразова даводзілася бачыць на вуліцах Барысава, Мінска.

Праз пару хвілін да гэтай групкі падыходзяць паліцыянты, просяць дакументы. Далей сядзець пад брамай ім яўна не дазволяць.

«Відаць, з Румыніі прыехалі», — кідае мой гід па Славакіі Павел. Ён сам некалькі гадоў працаваў з праектамі, што былі накіраваныя на сацыялізацыю цыганскай меншасці.

«Мясцовыя цыганы так не апранаюцца, і іх паліцыя не чапае, — кажа Павел. — Бачыш, якая ў яе яркая спадніца».

Славацкія цыганы падзяляюцца на дзве вялікія групы. Адна з іх умоўна называецца «старааселыя». Гэтыя цыганы яшчэ з XVII ст. пачалі весці аселы лад жыцця. Дазвол на гэта ім далі венгерскія ўлады (Славакія была пад венгерскім панаваннем). Сярод тых цыганоў былі кавалі, таксама яны плялі кошыкі, рабілі мётлы, абпальвалі гліну на посуд. Былі такія работнікі нават пры каралеўскім двары.

Другая група мае назву «валашскіх»цыганоў. Яны вялі паўкачавы лад жыцця, маюць больш светлую скуру, любяць залатыя ўпрыгожванні. Сярод іх пераважалі канакрады і музыкі. У Аўстра-Венгерскай імперыі яны былі адным з найбяднейшых пластоў насельніцтва.

Сёння розніца ў сацыяльным статусе паміж гэтымі групамі амаль знікла, хоць кантактаў паміж сабой яны ўсё адно не падтрымліваюць. Большасць славацкіх цыганоў знаходзіцца ў самай яме іерархічнай лесвіцы. Траціна з іх жыве ў цыганскіх «асадах» ці «гета». Дамы там збітыя з дошак, часта без электрычнасці, з жахлівымі гігіенічнымі ўмовамі.

### Ад Зыгмунта Люксембурга да канібалізму

Цыганы трапілі ў Славакію і Венгрыю з Малой Азіі яшчэ ў пачатку XIV ст. У адрозненне ад Заходняй Еўропы, тут яны доўгі час не зналі ніякага ціску і крыўдаў. Кіраўнікі Венгры вылучаліся ліберальнасцю ў пытанні цыганскай меншасці. Кароль Зыгмунт Люксембург нават вызваліў цыганоў ад падаткаў за вялікі ўнёсак у абарону краю.

Праўда, такая палітыка трымалася нядоўга. Ужо ў XVIII ст. Карл VI заклікаў знішчыць усіх цыганоў на сваёй тэрыторыі. У буйных гарадах, як Мішкальцы, цыганам забаранялася займацца кавальскай справай усюды, апроч сваіх палатак.

Марыя Тэрэзія праводзіць палітыку асіміляцыі цыганоў, называючы іх «новымі венграмі». Дзяцей-цыган у ваколіцах Браціславы забіралі ў бацькоў і аддавалі ў сем'і аддаленых вёсак. Сын Марыі Тэрэзіі пайшоў яшчэ далей, забараніўшы мову, традыцыйную музыку і адзенне цыганоў.

Колькі разоў славацкіх цыганоў абвінавачвалі ў канібалізме. Апошні такі выпадак быў у 1929. І хоць цыганоў тады апраўдалі, але напружанасць усё адно засталася. Пры сацыялізме цыганам забаранілі качавы лад жыцця.

### Школа

Паводле афіцыйных звестак, у Славакіі жыве 65 тысяч цыганоў, на справе ж — каля 450. Гэта штосьці блізу 10% ад насельніцтва краіны. Ёсць аж 620 цыганскіх паселішчаў. Большасць на поўдні і ўсходзе краіны.

Мястэчка Плавецкі Штвртак размешчана за 40 кіламетраў ад Браціславы. Тут знаходзіцца найбліжэйшая ад сталіцы «асада».

Гадоў пятнаццаць таму колькі цыганскіх сем'яў самавольна занялі тэрыторыю за вёскай. Паўсталі першыя халупы, якія заўважна кантрастуюць з дагледжанымі дамкамі карэнных жыхароў. На сёння з 2360 жыхароў Штвртака 650 з'яўляюцца цыганамі. Тут нават утварылі камісію па рашэнні «ромскага пытання».

Найперш хвалюе тое, што «асада» знаходзіцца на месцы, дзе праходзіць газапровад. Вялікая небяспека выбуху. Ёсць прапанова перасяліць цыганоў у само мястэчка, каб яны жылі побач са славакамі, а не адасобленай групай. Але пакуль гэта толькі планы, якія невядома як увасобіць у жыццё.

Мясцовая школа практычна на 100% стала цыганскай. Са 136 вучняў — 120 ромы. Дырэктарка Эмілія Чаганава расказвае, што бацькі проста не хочуць, каб іх дзеці вучыліся разам з цыганскімі. Яны вязуць малых у суседнюю школу, што за 7 кіламетраў, ці нават у Браціславу. Застаюцца толькі дзеці не з самых багатых сем'яў.

«Я б сказала, што гэта сегрэгацыя, але ў рамках закона», — кажа спн.Чаганава. Яна расказвае, што школа і матэрыяльна, і кадрава вельмі добрая, але бацькі баяцца, што іх дзяцей будуць крыўдзіць цыганы, а таксама, што такое суседства адаб'ецца на паспяховасці.

Малыя з ромскіх сем'яў ходзяць у школу, бо толькі такім чынам іх бацькі могуць разлічваць на дапамогу ад дзяржавы, тым не менш, асаблівай цягі да адукацыі не прыяўляюць. Разам з тым, школа лічыцца паспяховай, бо некаторыя выпускнікі змаглі паступіць ва ўніверсітэты.

«Ёсць адна дзяўчына, што скончыла медыякамунікацыі. Зараз хлопец з «асады» вучыцца хіміі ў Браціславе», — расказвае дырэктарка. Студэнтам-цыганам дапамагаюць недзяржаўныя фонды, калі не могуць падтрымаць бацькі.

### Як дрэсіроўшчык у цырку

Большасць дарослага насельніцтва «асады» нідзе не працуе. Збіраюць металалом, лекавыя травы, грыбы. Потым прадаюць. Нярэдкія і выпадкі крадзяжоў.

«Самае зло — гэта «асада», — мяркуе спадарыня Чаганава. — Дзеці растуць там без пазітыўнага погляду, там няма для іх прыкладу. Яны былі б і радыя пажыць іншым жыццём, але не ведаюць як».

Манахіня сястра Мірыям працуе з малодшымі класамі. Перад гэтым яна была з місіяй у Конга. «У Афрыцы дзеці вельмі худыя, нічога не маюць, але прагнуць навукі. У гэтых усё ёсць, але няма жадання вучыцца», — кажа яна са скрухай.

«Даводзіцца быць, як дрэсіроўшчыкі ў цырку», — дадае дырэктарка.

### «Гэта праўда, што яны не імкнуцца»

Фонд Мілана Шымечкі (названы ў гонар славацкага дысідэнта) займаецца абаронай правоў меншасцяў, у тым ліку і цыганскай. Прадстаўнік фонду Лаца Аравец называе 2 галоўныя праблемы ромаў: беднасць і расізм.

Ён лічыць, што ў часы сацыялізму пазіцыі цыганоў былі больш трывалымі. «Тады дзяржава забяспечвала іх працай, плаціла заробак». Пасля рэвалюцыі 1989 сітуацыя змянілася. «Гэта праўда, што яны ні да чаго не імкнуцца. У людзей, якія жывуць на самым дне, іншыя прэферэнцыі», — кажа Аравец.

Дарэчы, у Славакіі не прынята казаць «цыганы». Кажуць «ромы». Справа ў тым, што дзеяслоў «цыганіць» абазначае падман. Вось і вырашылі, што абразліва так называць людзей.

Многія з тых ромаў, што найбольш трывала стаяць на нагах, імкнуцца выехаць са Славакіі, едуць у Англію. «Брытанскі прыклад вельмі паказальны, там цыганы знаходзяць сабе працу, а не бадзяюцца без справы», — кажа Аравец.

«Калі палітык займаецца ромамі, то яго проста не выберуць ні ў парламент, ні ў самакіраванне. Няма той крытычнай масы, якая б магла зрабіць крок па вырашэнні праблемы. Такое зачараванае кола». Цыганы амаль не ходзяць на выбары. Хіба што некаторыя палітыкі практыкуюць у дзень выбараў скупліванне галасоў цыганскіх «асадаў».

### Ці вінаватыя цыганы?

Марак Гойсік працуе ў Міністэрстве працы і сацыяльнай абароны, дзе якраз і курыруе цыганскае пытанне. Ён адкрыта называе Славакію «расісцкай дзяржавай».

«Паедзьце ва Усходнюю Славакію, дзе мужыкі ў карчмах п'юць з 10-й ранку, але ва ўсіх сваіх бедах абвінавачваюць цыганоў», — кажа Гойсік.

«Мы лічым цыганоў лянівымі, махлярамі, п'яніцамі, а сябе — разумнымі, працавітымі, рахманымі. Але папытайцеся ў якога-небудзь галандскага фермера, што тут працуе, пра славакаў, ці не будзе ягоная характарыстыка падобнай да той, што мы даём цыганам».

На думку Гойсіка, нават адукаваныя людзі неадназначна, балюча рэагуюць на ромаў. Ён прыводзіць прыклад, як прывёў на працу ў Міністэрства трох цыганоў, наколькі насцярожанай была рэакцыя работнікаў. Сёння ўжо ніякіх праблем у камунікацыі паміж імі не існуе.

На выбарах тэма цыганскай меншасці гучыць амаль ва ўсіх партыях. У Славакіі ў парламенце няма радыкальных нацыяналістаў, як «Ёбік» у Венгрыі, тым не менш, адыёзных заяваў хапае. «Каб мы не плацілі тым, хто не хоча працаваць», — гучаў перадвыбарчы лозунг Славацкай нацыянальнай партыі. На ўлётцы былі змешчаныя шыракаплечыя цыганы ў майках-алкагалічках.

Сённяшні прэм'ер, сацыяліст Фіца кажа: «Усе павінны працаваць». Лібералы патрабуюць адмяніць датацыі для сем'яў, дзе больш за пяцёра дзяцей. Усе разумеюць, што такую колькасць маюць толькі цыганы.

Гойсік не верыць, што стан цыганоў у Славакіі бліжэйшым часам можа палепшаць. Ён мяркуе, што тут патрэбныя невялікія крокі. Першым мог бы стаць закон па забароне забіраць дзяцей са школ па месцы прапіскі (апроч прыватных і царкоўных), каб славацкія і цыганскія дзеці ад дзяцінства прывыкалі да сяброўства і цярпімасці.

**Зміцер Панкавец, Браціслава — Плавецкі Штвртак — Мінск**

**Аўтар дзякуе грамадскаму аб'яднанню «Чалавек у нядолі» і Міністэрству замежных справаў Славакіі за дапамогу ў напісанні артыкула.**

**Цыганы ў Беларусі**

Адна з традыцыйных этнічных груп нашай краіны. Першая згадка ў 1501 у прывілеях Аляксандра Ягелончыка. Цэнтрамі цыганскага жыцця былі Мір і Смаргонь. У ВКЛ не было праследу цыганоў, але займаць дзяржаўныя пасады забаранялася. У 1927 у Віцебскім раёне быў утвораны цыганскі калгас «Новае жыццё». У Мінску цыганы пражываюць у Паўночным пасёлку, у Калодзішчах. Паводле перапісу 2009, у краіне пражывае 7 тысяч цыганоў, хаця многія называюць лічбу не меней за 17 тысяч.

# Хлопец, які скочыў з 25-павярховіка, працуе каскадзёрам і не баіцца міліцыі

21-гадовы мінчук **ускалыхнуў інтэрнэт**.



Максім (імя не сапраўднае) расказвае пра скачок са шматпавярховіка Каменнай Горкі спакойна, нібы пра паход у краму. «Было пагодна, я ўзяў парашут у сябра. Пайшоў і скочыў».

Дзіва што: хлопец займаецца гэтым відам спорту з 2006. З самалёта скакаў разоў 200, каля сотні — з іншых аб'ектаў.

Па словах Максіма, кансьержка дома №6 на вуліцы Нёманскай за ім не гналася. Праўда, калі сказаў, што ідзе «да сябра», жанчына пацікавілася, ці не парашутыст ён. «Відаць, з гэтага дома скакаў не адзін я», — смяецца хлопец. А вось калі ён прызямліўся, ашаломленая жанчына ад душы аблаяла яго.

Па словах Максіма, здымаць палёт на відэа ён не збіраўся. Аўтары нашумелага роліка апынуліся на даху побач з ім выпадкова. Гэта былі маладзёны, якія ладзілі там фотасесію.

«Я абсалютна не думаў, што ўсю гэту фігню выкінуць на Ютуб ці кудысьці яшчэ. А потым навалі шуму».

Хлопец не баіцца міліцыі, бо ў сваіх дзеяннях не бачыць нічога супрацьзаконнага. «У чым злачынства? Зайшоў у дом, падняўся па лесвіцы, выйшаў на дах і проста спусціўся іншым шляхам».

Каб парашутыст выпадкова не прызямліўся на галаву мінакам, у двары дома «дзяжурылі» яго сябры.

«Калі пачынаеш чытаць каментары на сайтах, разумееш, наколькі ўсё ў Беларусі запушчана», — скардзіцца экстрэмал.

Хлапцу цяпер 21 год. Ён студэнт, паралельна працуе каскадзёрам. З дзяцінства марыў стаць лётчыкам. Скакаць з парашута пачаў у аэраклубе ў Баранавічах. Потым былі скокі з вяроўкай. Так прыйшоў да бэйсджампінга — скачкоў з розных аб'ектаў (дамоў, мастоў, антэнаў, скалаў).

У «бэйсе» няма запаснога парашута. Да таго ж, каб правільна скласці парашут, трэба ў 5 разоў больш часу, бо вышыня нашмат меншая.

«Не баіцца толькі вар'ят», — прызнае парашутыст.

Аднак ён упэўнены, што пры ўмовах выканання «тэхнікі» рызыка мінімальная. Сярод яго знаёмых смяротных зыходаў пакуль што не было.

Аксана Рудовіч

**Бэйсджампінг**

Ад англ. BASE jumping. Экстрэмальны від спорту, у якім выкарыстоўваецца спецыяльны парашут для скокаў з фіксаваных аб'ектаў. B.A.S.E. — акронім ад англійскіх словаў «building» (будынак), «antenna» (антэна), «span» (перакрыццё, мост) і «earth» (зямля). Гэта пералік асноўных тыпаў аб'ектаў, з якіх выконваюцца скокі.



**Фотафакт**

### Каткавец змяніла імідж

Надзеі Каткавец уручаная Ганаровая грамата Савета Міністраў. Узнагароджваў асабіста прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч. Надзея Каткавец працавала з 2003 на пасадзе намесніка міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Рэспублікі Беларусь. Цяпер яна з'яўляецца дырэктарам дэпартамента аграпрамысловай палітыкі Еўразійскай эканамічнай камісіі. Варта адзначыць, што Надзея Мікалаеўна за апошні час прыкметна змянілася.

# Беларускага футбаліста падазраюць ва ўжыванні допінгу

Сяргей Карніленка — адзін з найбольш **забіўных форвардаў** чэмпіяната Расіі.



Расійскія СМІ распаўсюдзілі інфармацыю, што ў крыві нападаючага «Крылаў Саветаў» Сяргея Карніленкі знойдзены забаронены прэпарат псеўдаэфедрын. Яшчэ нядаўна ён увогуле не з'яўляўся допінгам. Асаблівых плюсаў ад ужывання псеўдаэфедрыну таксама няма, апроч згону лішняга тлушчу.

Праўда, Карніленка працягвае з'яўляцца ў матчах чэмпіяната Расіі, што не падабаецца ягоным канкурэнтам. Расійскае антыдопінгавае агенцтва пакуль трымае паўзу ў гэтым пытанні.

Калі ўжыванне псеўдаэфедрыну сапраўды пацвердзіцца, то Карніленку можа пагражаць трохмесячная дыскваліфікацыя. Сам жа футбаліст называе абвінавачванні поўным трызненнем.

У вясновай частцы чэмпіяната Расіі Карніленка з'яўляецца найлепшым бамбардзірам разам з «зенітаўцам» Кержаковым.

ЗП



**Камертон Сяргея Ваганава**

## Страшнае слова

Ці даводзілася вам задумвацца над спалучэннем неспалучальных слоў?

Ну, вось узяць, напрыклад, Першамай. Так бы мовіць, «праздник труда».

«Праздник» — ад слова «праздный», ні з якой справай, ні з якім дзеяннем не звязаны. Які «труд»? Гуляй, душа!..

На беларускай мове — свята, святы дзень... Слова ўзвышанае, духоўнае, працаваць у такі дзень — вялікі грэх. Яшчэ больш — «гуляць», бадзяцца без мэты...

У савецкія часы, калі першамайскае бадзянне збівалася ў калоны, ніхто не адважваўся называць яго «народным гуляннем». Хаця менавіта такім яно і было, калі народ, разышоўшыся па кватэрах і хатах, праводзіў у гісторыю чарговую нагоду расслабіцца ды паслухаць казку аб тым, якое неверагодна добрае жыццё чакае яго наперадзе...

Але ж не ўсё так проста было ў савецкія часы. Асабліва для тых, хто іх помніць.

Вось старая фотакартка, адна з нешматлікіх ад даваеннага жыцця бацькоў. 1939-ы, першамайская дэманстрацыя. Фон — апошнія паверхі Дома ўрада, высока над галовамі партрэт чалавека з вусамі. Бачны толькі нізкі лоб і вусы, але ўгадваецца беспамылкова. А наперадзе — маладыя мужчыны і жанчыны ў доўгіх паліто, крочаць весела, размашыста, вольным крокам. Не маршыруюць — крочаць пад музыку, гэта бачна па здымку, нават чутна: «...вставай, не спи, кудрявая...»

Колькі ні гляджу на гэты здымак, не магу зразумець, якому цуду так шчыра радуюцца гэтыя людзі, радуецца бацька, каторы на большасці іншых здымкаў з сямейнага архіва задуменны, нават сумны... Разумею — малады, усяго 25, побач жанчына, каторую ён кахае, сябры, калегі... Свята, у рэшце рэшт, Першамай!

Але ўжо два гады, як у Казані раздзёрта сям'я старэйшага брата — сам расстраляны, жонка на Калыме, малалетнія дзеці, сястрычка з брацікам, раскіданы па дзіцячых дамах у розных канцах СССР...

І ўсё ж ёсць у тым здымку адна незалежная ад часу прадабязнасць, якая, можа, больш за бацькоўскую весялосць не дае мне спакою: усе яны, маладыя мужчыны і жанчыны ў доўгіх паліто, ідуць, узяўшыся пад рукі. Іх яшчэ многа, у тым ланцужку, амаль усіх я ведаю — і тых, каго выбіла вайна, і тых, хто дажыў да сярэдзіны майго ўласнага жыцця. І ведаю, што, калі б гэты ланцужок разарваўся, я не выжыў бы. Магчыма, і не з'явіўся б на свет...

**Свята, у рэшце рэшт, Першамай!**

Вялікая сіла — чалавечае сяброўства і салідарнасць паміж людзьмі!

...Ці існуе ў нашым сёняшнім грамадстве хаця б ланцужок салідарнасці?

На чалавечым узроўні так, існуе. Людзі, дзякуй Богу, яшчэ не пазбавіліся імкнення і здольнасці дапамагаць адзін аднаму, асабліва калі размова ідзе пра выратаванне жыцця.

Чаму ж на грамадскім узроўні пануе ўсеагульная абыякавасць?

Адкуль яно, гэта бясконцае маўклівае чаканне таго, што нешта пераменіцца ў лепшы бок — ці само, ці прапагандысцкімі намаганнямі ўлады, ці з дапамогай вонкавых дабрадзеяў?

На мой розум, у гэтай сумнай з'яве адна крыніца — страх. Страх перад уладай і страх перад незалежным жыццём.

Няўжо французы, немцы, іспанцы ды туркі жывуць бядней, горш за нас, калі выходзяць 1 мая на шматтысячныя дэманстрацыі ў абарону сваіх правоў?!

Чаму ж мы, якія жывём не ў беспаветранай прасторы, нават не за «жалезнай заслонай», як у колішнія часы, такія абыякавыя да ўласнага жыцця? Можа, нас не хвалюе нястрымны, як нідзе, нават у краінах СНД, катастрафічны рост цэнаў, падзенне рэальных заробкаў, пенсій, сапраўднае, а не статыстычнае беспрацоўе?

Хваліюе, безумоўна. Але ж выйсце шукаецца не ў салідарным супраціве, а ў прыстасаванні да жыцця на кіруючым ланцугу ці, што тычыцца моладзі, усё часцей за мяжой.

А што апазіцыя? Што незалежныя прафсаюзы? Нешта варухнулася на левым ускрайку, ды зноў прыціхла... Як чорт ад ладана апазіцыя бяжыць ад усяго савецкага, забыўшыся, што 1 мая — далёка не савецкая па сваёй сутнасці традыцыя.

Нідзе ў свеце і ніколі, пачынаючы ад 1886 года ў Чыкага, 1 мая не было святочным днём. Толькі Днём салідарнасці — самай моцнай зброі працоўных у змаганні за свае правы.

Страшнае слова — салідарнасць.

Страшыць уладу, палохае людзей, насцярожвае апазіцыю...

Такое страшнае, што нават выкраслена з сутнасці Першамая... з ужытку... з жыцця.

*kamerton_41@mail.ru*

# 57-гадовы інвалід-экстрэмал адважыўся на адзіночны спуск па Дняпры

Пасля цяжкай траўмы ўрачы прарочылі яму інвалідны вазок. Але **Юрый Лішаеў** скарыў хваробу.



Лішаеў змог вярнуцца пасля трагедыі да звыклага ладу жыцця.

### «Баця рускі, мама беларуска, а я ўкраінец»

Дактары па сённяшні дзень здзіўлена паціскаюць плячыма. Нездарма Юрыя Лішаева называюць жывой легендай. Пра яго здымаюць фільмы і складаюць балады.

Ён вырас у Сімферопалі, каля Пятроўскіх скал. У 13 гадоў упершыню пабачыў, як хлапчукі лазілі па скалах. Паспрабаваў сам і «закахаўся ў горы з першага позірку». Пачуццё было ўзаемным. Не прайшло і тыдня, як пацана запрасілі на чэмпіянат Каўказа, не хапала юніёраў. Там хлопец «здуру заняў першае месца».

Так усё і пачалося: чэмпіянаты Крыма, Украіны, усесаюзныя зборы...У 23 гады Юрый Лішаеў стаў самым маладым майстрам спорту СССР па скалалажанні. А яшчэ праз 5 гадоў ён парваў сваё майстарскае пасведчанне. «Я лажу не дзеля папераў», — казаў ён тады таварышам.

Юрый палюбіў адзіночнае ўзыходжанне («сола»), якое ў савецкія часы лічылася хуліганствам. Лішаеў цытуе гуру скалалажання Хубера: «Вышыняй майстэрства з'яўляюцца псіхіадзіночкі. Але яны не могуць быць узорам для пераймання».

### Узлёт і падзенне

Скалалажанне — не адзіны занятак Лішаева. Ён працаваў на тэлезаводзе, займаўся прамысловым альпінізмам. Засвоіў ювелірнае майстэрства, якое доўгі час прыносіла прыбытак. Юрый увесь час носіць талісман уласнай работы, на якім выгравіраваная мянушка «Фанцік».

Альпінізм, горныя лыжы, праз якія атрымаў першую траўму, віндсёрфінг — гэта не поўны пералік яго заняткаў. У 80-х пазнаёміўся з французскім парапланерам Івам Балю. Так пачалося захапленне палётамі, якое стала лёсавырашальным.

Напачатку 90-х Лішаеў актыўна здымаўся ў кіно. Так, у 1990 па запрашэнні «Каламбіі пікчэрз» лётаў на здымкі спартыўнага фільма ў ЗША. Прымаў удзел у знакамітым «Клубе падарожнікаў» Юрыя Сянкевіча. Падчас здымак чарговай серыі яго параплан пацярпеў крушэнне, і Юрый грымнуўся на скалы.

Так у 37-гадовым узросце чалавек, які не ўяўляў жыцця без драйва, на два гады апынуўся прыкаваным да ложка з перспектывай ніколі не ўстаць.

### «Я сцёр з памяці ўсё, што было да траўмы»

Юрый не любіць слова экстрым. Для яго альпінізм — гэта ўзыходжанне, у першую чаргу — над самім сабой. «Я заглядаў за межы сваіх магчымасцяў», — кажа ён.

Галоўнае сваё ўзыходжанне Лішаеў здзейсніў у бальніцы, калі насуперак дыягназу ўрачоў устаў на ногі. Юрый кажа, што дагэтуль не адчувае сваіх ступняў. Бачна, якіх высілкаў каштуе мужчыну нацягнуць абутак на непаслухмяныя канечнасці.

Зараз ён ходзіць на мыліцах. Барадаты і бяззубы дзядзька на жыццё не скардзіцца. Жартуе, просіць звяртацца на «ты». А блакітныя вочы мужчыны так і свецяцца, убачыўшы прыгожых жанчын.

Паняцці «спорт» і «здаровы лад жыцця» для яго несумяшчальныя. Бессэнсоўна казаць Юрыю пра шкоду палення. Спіртное ўжывае ў меру.

На мыліцах давялося ўсё перайначыць, перавярнуць унутраны свет. «Не думаў пра тое, што раней усё давалася лёгка», — кажа альпініст. Ён вярнуўся да старога: горы, плаванне, палёты... Хто не бачыў Юрыя, з цяжкасцю ў гэта паверыць.

### «Я ў шоку ад аршанцаў»

З Юрыем Лішаевым мы сустрэліся ў Оршы, куды ён прыехаў патрэніравацца перад спускам па Дняпры. 28 красавіка яго адвезлі з Оршы да месца, дзе пачынаецца рака. Адтуль спартсмен-інвалід стартануў на пластыкавым каяку ў вандроўку, даўжынёю больш за 2 тысячы кіламетраў. Гэта другая акцыя кампаніі «Каўчэг надзеі», мэта якой — прыцягнуць увагу грамадства да праблем інвалідаў.

Спартсмен, які так прагне жыцця, ідэалізуе тэму Вялікай Айчыннай вайны. Шмат гаворыць пра партызанаў, невядомых салдатаў, асуджае бандэраўцаў. Зрэшты, тэму палітыкі абыходзіць: «Давайце лепш пра жанчын!» — жартуе Лішаеў.

Юрый дзівіцца гасціннасці аршанцаў. Госця звазілі па ўсіх мясцовых музеях ды месцах «баявой славы», запрасілі ў журы конкурсу на лепшую песню пра Оршу.

Дома ў Сімферопалі Лішаеў бывае рэдка. У яго ёсць жонка (родам з Паставаў), дачка, зяць і ўнучка. Апошні раз з дачкой бачыўся паўгода таму. Калі ён праглядае фота родных па мабільніку, вочы Юрыя поўныя слёз.

Зараз спартсмен-інвалід жыве на пенсію ў 1100 грыўнаў (каля 100 долараў) і тым, што дадуць добрыя людзі. Напрыклад, пластыкавы каяк набылі добраахвотнікі з «Хонда-сям'я».

«Ніхто нас не крыўдзіць, апроч нас саміх», — любіць паўтараць Юрый. «Усё у вас атрымаецца, не перажывайце . Калі што, узгадайце старога інваліда».

**Аксана Рудовіч, Орша — Мінск**

**Юрый Лішаеў**

Першы чэмпіён СССР па скалалажанні, пераможца Паралімпійскіх гульняў. На рахунку альпініста больш за 40 першапраходжанняў. Ён аблазіў увесь Крым, скараў непрыступныя вяршыні Каўказа, Чэхіі, Амерыкі.

# «Катрука цяжка будзе асудзіць»

У Канадзе адшуканы **ўдзельнік спалення Хатыні**?



У Квебеку Уладзімір Катрук займаецца пчалярствам.

91-гадовы ўкраінец Уладзімір Катрук, які ціха жыве ў Омстаўне (правінцыя Квебек, Канада) і займаецца пчалярствам, — адзін з самых шуканых нацысцкіх злачынцаў, піша Toronto Star. Ён на чацвёртым месцы ў спісе Цэнтра Сімона Візенталя — арганізацыі, якая займаецца пошукам нацысцкіх злачынцаў па ўсім свеце.

Звесткі, што чалавек, якога звалі Уладзімір Катрук, пільнаваў з кулямётам тых, хто спрабаваў вырвацца з ахопленага полымем хлева ў Хатыні, грунтуюцца на нядаўняй публікацыі Пэра Андэрса Рудлінга, піша выданне. Гісторык з Лундскага ўніверсітэта (Швецыя) грунтаваўся на рассакрэчаных у 2008 дакументах КДБ.

22 сакавіка 1943 у Хатыні было спалена 149 чалавек (у тым ліку 75 дзяцей). Карную аперацыю зладзіў 118-ы паліцэйскі батальён, што дыслакаваўся ў Плешчаніцах. Напярэдадні на дарозе між Плешчаніцамі і Лагойскам партызаны застрэлілі гаўптмана Ганса Вельке, чэмпіёна Мюнхенскіх алімпійскіх гульняў і любімца Гітлера, які ехаў з войска на адпачынак. Былі абстраляныя і грузавікі з салдатамі, што ішлі следам. Папярэднюю ноч тыя партызаны начавалі ў Хатыні. Паліцэйскі батальён пайшоў па слядах прыйшоў у вёску...

Пасля вайны некалькіх удзельнікаў разні ўдалося адшукаць. У 1975 былі асуджаны да расстрэлу камандзір узвода 118-га батальёна Васіль Мялешка, у 1986 — начштаба Рыгор Васюра. Абодва — былыя чырвонаармейцы-акружэнцы з Кіеўскага катла, што перайшлі да немцаў на службу. З такіх у большасці складаўся батальён. Васюра пасля вайны быў 40 гадоў старшынёй калгаса і лічыўся франтавіком.

Гісторык Аляксей Літвін лічыць, што віну Катрука цяжка будзе давесці. «На Захадзе суд сыходзіць з прэзумпцыі невінаватасці. Напрыклад, так і не асудзілі Антанаса Гецэвічуса, які жыў у Шатландыі. З'явіліся дакументы — загад батальёну, у якім ён служыў, зладзіць карную акцыю ў Дзяржынску. А Гецэвічус сказаў у судзе, што ў дзень акцыі быў у шпіталі. Паколькі спісаў са шпіталя не было, абвергнуць яго не ўдалося».

Катрук эміграваў у Канаду ў 1951. Яго ўжо спрабавалі пазбавіць канадскага грамадзянства за падазрэнні ў сувязях з нацыстамі, рашэнне было перагледжана праз недахоп доказаў. Прымаючы пад увагу новыя абставіны справы, урад можа вынесці пастанову аб яго дэпартацыі з Канады.

Сам Катрук адмаўляе датычнасць да злачынстваў, але і пра мінулае маўчыць. З журналістамі Toronto Star, якія задавалі яму пытанні пра вайну, ён размаўляў пра пчолаў. І толькі на развітанне кінуў фразу: «Калі прыйдзе час гаварыць, я буду гаварыць. Цяпер яшчэ не час».

**Сяргей Мікулевіч**

# «БМВ» вільнуў хвастом направа. Глухі ўдар аб слуп, шмат пылу»

**На месца гібелі двух азербайджанцаў з’ехаліся сотні іх суайчыннікаў.**

«29 красавіка, пасля 21-й гадзіны, на мінскай кальцавой дарозе (паміж выездамі на Даўгінаўскі і Лагойскі тракты) BMW-5-Series урэзаўся ў слуп» — паведаміў памочнік начальніка гарадскога ўпраўлення МНС Віталь Дэмбоўскі.

Ад удару слуп зламаўся ў двух месцах, аўтамабіль ператварыўся ў кавалак бясформеннага металу. У кіроўцы і яго пасажыра не было шанцаў выжыць.

Паводле зводкі ДАІ, за рулём аўто знаходзіўся 43-гадовы мінчанін, азербайджанец па нацыянальнасці, пасажырам быў 29-гадовы грамадзянін Азербайджана (меў рэгістрацыю ў Беларусі).

Праз некалькі хвілін да месца здарэння прыехала каля 50 машын з прадстаўнікамі азербайджанскай дыяспары. Яны абступілі супрацоўнікаў ДАІ і МНС. Для падтрымання парадку быў выкліканы міліцэйскі спецназ.

Партал Auto.onliner.by публікуе словы сведак, якія мяркуюць, што аварыя магла стаць вынікам рызыкоўнага манеўра. «Ганяліся з нейкай «Вольва» яшчэ ад «Экспабела», апярэджанне па ўзбочыне было няўдалым».

Яшчэ адзін сведка апісвае здарэнне так: «Быў самым блізкім відавочцам, «БМВ» тармазіў перад маім бамперам. Гналі з «Вольва», нумар ёсць на рэгістратары (...) «Вольва» ішла па крайняй левай, «БМВ» па правай. «БМВ» спрабаваў перайсці з правага шэрагу ў левы, потым зразумеў, што не паспявае перад «Вольва», вырашыў сысці ў цэнтральны шэраг, але там ехаў я. У салоннае люстэрка бачыў, як «БМВ» вільнуў хвастом і потым пайшоў направа. Глухі ўдар аб слуп, шмат пылу».

На відэа, выкладзеным гэтым кіроўцам, бачна, як злева аўто відавочцы на вялікай хуткасці апераджае ўседарожнік. Праз лічаныя секунды чутны кароткі гук тармажэння і гучны ўдар. У міліцыі факт начных гонак не пацвярджаюць. Расследаваннем акалічнасцяў займаецца Следчае ўпраўленне па Мінску.

Многія СМІ паспяшаліся напісаць, што адзін з загінулых, Заур Ісмаілаў, быў чэмпіёнам Беларусі па барацьбе. Варта адзначыць, што інфармацыі пра яго зусім вобмаль. На афіцыйным сайце Беларускай федэрацыі барацьбы Заура няма ні ў якіх спісах. Не ведаюць пра яго і журналісты спартыўных выданняў.



Знакаміты дзюдаіст, заслужаны майстар спорту Беларусі Націк Багіраў расказаў «НН», што Заур Ісмаілаў не быў чэмпіёнам Беларусі. Што гэта памылка, якую растыражавала прэса. «Займаўся, так. Але чэмпіёнам не быў».

Націк Багіраў кажа, што на МКАД здарылася трагедыя і дадае, што не разумее тых, хто зараз на форумах палівае брудам загінулых. «У аварыі можа загінуць любы, незалежна ад нацыянальнасці».

**Сямён Печанко**

**Па інфармацыі ДАІ,**

28—29 красавіка ў Беларусі зарэгістравана 560 ДТЗ з матэрыяльным уронам. У 27 аварыях 10 чалавек загінулі і 34 атрымалі раненні.

Затрыманыя 289 нецвярозых кіроўцаў. За перавышэнне хуткасці пакараныя 3394 кіроўцы, 1106 пешаходаў прыцягнуты да адказнасці за парушэнне правілаў дарожнага руху.

# Выбухі ў Днепрапятроўску

**Украінскі горад скаланула серыя выбухаў. Пацярпелі 30 чалавек.**

27 красавіка ў Днепрапятроўску прагрымела серыя выбухаў. Паводле афіцыйнай інфармацыі, выбухі былі чатыры, па чутках — каля дзесяці. Выбухі адбыліся на трамвайным прыпынку, прывакзальнай плошчы і ў гарадскім парку. Ва ўсіх выпадках бомбы былі закладзены ў сметніцы. Пацярпелі 30 чалавек, з іх 10 дзяцей.

У горадзе пачалася паніка. Не працавала мабільная сувязь. Міліцыя рэкамендавала не карыстацца грамадскім транспартам.

Пракуратура расцаніла інцыдэнт у Днепрапятроўску як тэракт. Адказнасць за здзейсненае на сябе ніхто не ўзяў.

Сваю дапамогу ў расследаванні тэракта 27 красавіка Украіне прапанавалі Беларусь, Еўрасаюз іРасія.

Днепрапятроўскі журналіст Юрый Райхель мяркуе, што найбольш верагоднай прычынай здарэння з’яўляецца перападзел бізнэсу паміж мясцовымі і данецкімі элітамі.

Гэта другая справа, распачатая па артыкуле «тэракт» у гэтым горадзе за апошнія паўгода. У лістападзе 2011 ад выбуху закладзенай у сметніцу бомбы загінуў выпадковы чалавек. Усяго за мінулы год ва Украіне было здзейснена чатыры тэракты. У трох з іх ніхто не пацярпеў.

**СП**



ТСН

## Шкода ад дзейнасці «МММ-2011» у Беларусі – 800 мільёнаў

**Старшыня Следчага камітэта Валерый Вакульчык лічыць, што ў справы добрыя судовыя перспектывы.**

Раней агучвалася сума ў 500 мільёнаў. Па словах Вакульчыка, па справе праходзяць пяць чалавек, яны знаходзяцца пад вартай. Іх вінавацяць у незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці паводле ч. 3 арт. 233 КК. «У справы ёсць добрыя судовыя перспектывы», — упэўнены Вакульчык. Ён не выключае, што, калі ў часе следства высветліцца, што злачынства арганізоўвалася з-за межаў Беларусі, то Следчы камітэт звернецца па дапамогу ў іншыя краіны.

Нагадаем, што супрацоўнікі мінскага офіса «МММ-2011» былі затрыманы спецслужбамі 16 сакавіка. У гэты ж дзень па ўсёй краіне прайшлі рэйды па адрасах, дзе месціліся офісы МММ. У Брэсце быў затрыманы арганізатар мясцовага філіяла.

**БелаПАН**

### Дзяўчына на «Рэно» пратараніла будынак МУС у Мінску

27 красавіка днём дзяўчына на «Рэно» паварочвала з праспекта Незалежнасці на вуліцу Гарадскі Вал. Пры гэтым яна выехала на ходнікі і ўрэзалася ў сцяну будынка МУС. Ніхто не пацярпеў. Сама кіроўца так і не здолела патлумачыць супрацоўнікам ДАІ прычыны здарэння.

**СП**

### Фотафакт



### Сцісла

#### Катавалі прасам

Двое жыхароў Жлобіна селі выпіваць з 26-гадовым рабочым «Жлобінаўтатранса». Выпілі і пачалі збіваць хлопца, каб даведацца пін-код з ягонай банкаўскай карткі. Пагражалі нажніцамі, прыпальвалі цела прасам. У рэшце рэшт скралі з карткі паўмільёна.

#### Аб’еў калег на 4 млн рублёў

23-гадовы трактарыст аднаго з мінскіх заводаў заўважыў, што пропуск у сталоўцы патрабуюць не заўсёды, часам задавальняючыся вуснай інфармацыяй аб асабістым нумары. І пачаў называць нумары двух сваіх калег. За два месяцы наеў за чужы кошт на 4 мільёны.

#### Хлопец, якога шукае ўвесь Мінск, прапануе «забыцца» пра сваё знікненне

Бацька знайшоў яго на дарозе недалёка ад Турава, калі той зняў з карткі грошы. Пра інцыдэнт нічога расказваць не хоча.

#### У Ракаве скралі больш за 200 станкоў для галення

Станкі для галення і зменныя касеты да іх на 11 мільёнаў 300 тысяч рублёў ноччу 25 красавіка ўкраў невядомы злодзей са склада прыватнага прадпрыемства «Алдзі-Вест», што ў Ракаве (Валожынскі раён). Цікава, ці не будуць цяпер правяраць усіх чыста паголеных?

#### У Мінску прапаў грамадзянін Лівіі

Ён прыехаў на аздараўленне. Зніклы, які пакутуе на прыдуркаватасць, разам з сястрой і пляменнікам прыляцелі ноччу 18 красавіка і былі паселены ў кватэры дома на вуліцы Заслаўскай. Раніцай 18 красавіка сваякі, калі прачнуліся, не знайшлі трэцяга члена сям’і.

**СП**



**Аншлаг, яшчэ аншлаг**
28 красавіка «Крамбамбуля» сабрала аншлаг у Вільні. Раскупленыя квіткі і на яшчэ два віленскія канцэрты гурта. Усім, хто купіў квіток, літоўскае пасольства дало візу на дзень канцэрта.

## Сцісла

**Памёр антраполаг Ігар Чаквін**

58-гадовы доктар гістарычных навук працаваў у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. Ігар Чаквін нарадзіўся ў 1954 у Мінску. У 1977 скончыў Белдзяржуніверсітэт. З 1983 працаваў старэйшым, а з 1996 вядучым навуковым супрацоўнікам ІМЭФ НАН Беларусі. Спецыялізаваўся на даследаванні этнагенезу і этнічнай гісторыі беларусаў эпохі феадалізму, але трапна аналізаваў і этнасацыяльныя працэсы нашых дзён. Зрабіў больш за 20 антрапалагічных рэканструкцый аблічча жыхароў беларускіх земляў па парэштках са старажытных курганоў.

**Раёнам Гомеля дадуць гістарычныя назвы**

Тапанімічная камісія Гомельскага гарвыканкама вызначылася з назвамі для некалькіх новых мікрараёнаў: Новы Двор, Волатава, Мельнікаў луг, Клянкоўскі, Хутар, Шведская горка. Яны грунтуюцца на спрадвечных назвах тых мясцовасцяў.

**Гурт «Без білета» зняў антытаталітарны кліп**

Правакацыйнае відэа на песню «Быць як усе» зняў малады рэжысёр Мітрый Сямёнаў-Алейнікаў. Музыкі сыгралі ў кліпе ролі пацыентаў і дактароў у фантастычным бюро па карэкцыі індывідуальнага мыслення.

СМ

Кіно

# Скандал у фінале

Сцэнарыст і замоўца першага беларускага серыяла **«Вышэй за неба»** рассварыліся.

На фінальнай стадыі працы над беларускамоўным фільмам «Вышэй за неба» разгарэўся скандал паміж замоўцамі (Прадстаўніцтва ААН у Беларусі) і сцэнарыстам Андрэем Курэйчыкам.

**Серыял «Вышэй за неба»**

здымаецца ПРААН у супрацоўніцтве з Міністэрствам аховы здароўя Беларусі. Сцэнарый напісаў Андрэй Курэйчык. Стваральнікі называюць серыял «першым фільмам пра сучасных беларусаў, створаны выключна для беларускага рынку сіламі толькі беларусаў». У здымках узялі ўдзел дзеячы незалежнай культуры — рэпер Vinsent, Зміцер Вайцюшкевіч, «Ляпіс Трубяцкой».

«Фільм гатовы, але ўвесь відэашэраг належыць ААН, мы не маем на яго ніякіх правоў, — кажа Курэйчык. — Мы не можам паказаць яго нідзе. Магчыма, гэта звязана з тым, што фільм выйшаў няпросты. Праваўладальнікі хацелі «пракаціць» фільм па дзяржаўных каналах, але там ёсць людзі, якіх па БТ не паказваюць, — «Ляпісы», Вайцюшкевіч, Хаменка».

### Рэжце, але дайце паказваць

Курэйчыка падтрымлівае рэжысёр фільма Дзмітрый Марынін і частка творчай групы. Яны пашырылі ў інтэрнэце відэазварот са сваімі патрабаваннямі. Быў зладжаны і камерны паказ фільма.

Група згодная на кампраміс — хай па БТ пакажуць «парэзаную» версію, адзінае, каб дазволілі паказваць стужку на кінафестывалях: «У нас там жорсткі фільм, ніякай палітыкі, але ўздымаюцца іншыя праблемы: правы чалавека, заробкі. Хай нам дазволяць яго паказваць. Гэта не пытанне грошай — фільм дабрачынны, і за пракат мы не атрымаем нічога. Аднак мы абяцалі якаснае кіно, мы яго зрабілі».

### Адна серыя замест васьмі

«Якія чорныя спісы? Гэта глупства абсалютнае. ААН — міжнародная арганізацыя», — так каментуе заявы Курэйчыка каардынатар інфармацыйнай дзейнасці Праграмы развіцця ААН у Беларусі Уладзіслаў Хількевіч.

Паводле яго словаў, дзвюхгадзінны аднасерыйны фільм, зроблены Курэйчыкам, у ПРААН не бачылі. Дый гаворка не ішла пра здымкі такога фільма. Серыял «Вышэй за неба», паводле дамовы, мае быць 8-серыйны, па 44 хвіліны кожная серыя. І цяпер творчая група мантажуе з адзнятага «сырога» матэрыялу кіно патрэбнага фармату. Першую серыю, паводле каардынатара праекта ад ПРААН Марыі Маліноўскай, прэзентуюць ужо ў маі.



Курэйчык зладзіў закрыты паказ фільма ў сябе дома.

«Андрэй Курэйчык быў сцэнарыстам. Ён напісаў цудоўны сцэнар, мы разлічыліся за яго, — працягвае Хількевіч. — Але цяперашнія спробы паказваць сваю версію копію нагадваюць пірацтва. Умовай донараў — Глабальнага фонду па барацьбе са СНІДам і малярыяй, які даў мільён даляраў на серыял, — было тое, што фільм спачатку пакажуць па дзяржаўных каналах. Каб некалькі мільёнаў чалавек маглі пабачыць гэта кіно».

Канфлікт разгараецца. Акторка Вольга Курэйчык, жонка сцэнарыста, якая сыграла ў фільме доктарку Пятрову, у лісце прадстаўніку ААН/ПРААН у Беларусі Антоніусу Бруку заявіла, што з ёй не быў падпісаны працоўны кантракт, і забараніла выкарыстоўваць свой аўдыёвізуальны вобраз.

Падобна, у аснове канфлікту ляжаць не палітычныя прычыны, а сутыкненне інтарэсаў. Але канчаткова ўпэўніцца ў гэтым можна будзе толькі на свае вочы, калі серыял пакажуць па тэлебачанні. Праца з фільмам, абяцаюць у ААН, будзе скончаная сёлета.

**Юрась Ускоў, СМ**

Літаратура

# Без fiction

Пра 57-ы нумар «Дзеяслова» піша **Анатоль Сідарэвіч**.

З нейкага часу ў нашай прозе з'явіўся новы жанр — аповед. Слова гэтае пайшло гуляць пасля рэцэнзіі Сяргея Дубаўца на кніжку Вячаслава Дубінкі. Рэцэнзія друкавалася бліжэй да сярэдзіны 1980-х і мела загаловак «Аповед гаваркога дзядзькі». Памятаю, мы, лімаўцы, не вельмі хацелі пускаць рэцэнзію з гэткім словам у свет, але потым вырашылі: няхай ідзе. І «аповед» стаў словам-вызначэннем жанру для таго, што цяжка назваць апавяданнем. Так, нешта неакрэсленае.

Рызыкну і напішу: цяперашнія маладыя празаікі не ўмеюць пісаць апавяданні — і сюжэтныя (а правільней — фабульныя), і «бессюжэтныя». «Закруціць» фабулу трэба ўмець. Ці не апошнім фабульным навелістам, аб творах якога «гаварылі ўсе», быў Уладзімір Арлоў. «Пра нішто» таксама трэба ўмець напісаць. Ну, не ведаю, каб хто з маладых напісаў такое «бессюжэтнае» апавяданне, якое б дараўнала «Сцяпану Ігнатавічу Вапшчэткі» Анатоля Кудраўца. А хто скажа, пра што напісана геніяльнае, паводле Фядуты, «Смаленне вепрука» Міхася Стральцова?

Вось такія думкі і згадкі спарадзіў у маёй галаве свежы — пяцьдзясят сёмы — нумар часопіса «Дзеяслоў». У гэтым нумары толькі АДЗІН тэкст можна аднесці да fiction, г.зн. да прозы з выдуманымі героямі, персанажамі.

Раней было так: калі ў першай (белетрыстычнай) частцы «Дзеяслова» я не заўважаў надзейнага імя празаіка, то чытанне пачынаў з другой часткі — з публіцыстыкі, крытыкі, архіўных публікацыяў... Гэтак і пяцьдзясят сёмы нумар я пачаў з другой часткі, бо друкаванне рамана Генрыха Далідовіча «Рурыкавічы і Рагвалодавічы» яшчэ калі будзе скончана. Тэксты ж Сяргея Рублеўскага «з кнігі для тых, хто любіць лавіць рыбу ўсім сэрцам» (!) — не fiction. Гэта хутчэй успаміны рыбалова. Цікава чытаць тэксты Алеся Усені «Мой лістапад...», але гэта, зноў жа, успаміны. Чытаюцца і густоўна напісаныя ўспаміны Аляксандра Фядуты пра маці.

Адзін толькі дэбютант у прозе — Стас (так і хочацца напісаць нашае Стась) Ільін — жанр свайго тэксту вызначыў як апавяданне. Але ў яго таксама «непрыдуманая проза».

А вось яшчэ адзін незнаёмы мне аўтар — Валеры Гапееў. Ягоны невялікі твор «Мы нікому пра гэта не раскажам» — спроба сапраўднай fiction. У ім апавядаецца, як байцы «спецыяльнага асобнага чырвонаармейскага атрада» едуць забіраць каштоўнасці ў праваслаўным жаночым манастыры, што месціцца ў былым бернардынскім кляштары. У творы шмат крыві і трупаў, але мне не страшна. Чытаючы жахлівыя сцэны, я не сцяўся ад жаху, не заплакаў, бо аўтар, апісваючы персанажаў, падрыхтаваў мяне да такіх сцэнаў. У кожным малым празаічным творы, на маю думку, павінна быць запамінальная канцоўка, якая лагічна вынікае з напісанага. Канцоўка твора Гапеева ні псіхалагічна, ні лагічна не абгрунтавана. Хоць зло пакарана, я чамусьці не радуюся. Ці не таму, што чакаў такой канцоўкі?

**Цяперашнія маладыя празаікі не ўмеюць пісаць апавяданні**

Чытаючы тэксты першай часткі «Дзеяслова» пасля тэкстаў з другой часткі, думаеш: а якое, уласна, адрозненне паміж часткамі? Хіба ў другой друкуюцца не ўспаміны, а дзённікі. Таксама проза, але таксама не fiction.

Ніл Гілевіч знаёміць са старонкамі запісаў за 2000 год. Ёсць у мяне падазрэнне, што публікуюцца не толькі не ўсе старонкі, але і апублікаваныя запісы няпоўныя. Свае дзённікі пачалі друкаваць Алесь Жук і Кастусь Цвірка.

Ведама, я мог бы напісаць і пра паэзію ў гэтым нумары «Дзеяслова», і пра публікацыю Эўрыпідавай «Медэі» ў перакладзе Лявона Баршчэўскага... Але душа мая смуткуе па fiction, па добрым апавяданні. Хочацца, каб першая частка «Дзеяслова» істотна адрознівалася ад другой.

# Фашысты ў электрычцы

**Яны трымалі ў страху ўвесь вагон, але супрацоўнікі міліцыі не спяшаліся на дапамогу.**

22 красавіка ў апошняй электрычцы на Маладзечна адбывалася невядома што. Група футбольных фанатаў-фашыстаў — чалавек восем — трымала ў страху ўвесь другі вагон. Нягледзячы на позні час, у электрычцы было шмат падарожных. Маладыя людзі, і я ў тым ліку, вярталіся дадому з беларускага рэгі-фэсту «Да!Бро!». Хлопцы-нефармалы выклікалі ў фашыстаў, мякка кажучы, вялікую цікавасць. Урэшце, фанаты дачапіліся да адной з кампаній і правакавалі іх даволі доўга. Дзякуй Богу, абышлося без бойкі.

Усю дарогу фашысты кідалі «зігі», выкрыквалі нецэнзурныя словы, хадзілі па сядзеннях. Адзін урэшце прамазаў міма сядзення ды заехаў сабе спінкай крэсла ў пахвіну, чаму народ моўчкі парадаваўся.

Цікава, але, калі зайшлі кантралёры, дэбашыры ўраз ператварыліся ў пай-хлопчыкаў.

## Міліцыю сустракалі апладысментамі

Квіткоў, вядома ж, у іх не аказалася, але іх ніхто не вывеў з цягніка. «На вуліцы мароз, а нам у Мала-дзечна трэба. Ну, калі ласка! »Так хуліганы засталіся весяліцца далей. Дзіўна, але кандуктары ў міліцыю не звярнуліся, хоць на нашых тварах нельга было не заўважыць страху.

Як потым аказалася, у міліцыю ўсё ж такі звярнулася адна з дзяўчат. Але да нас ніхто не спяшаўся. Калі да прыбыцця ў Маладзечне заставалася хвілін 30, усё-такі з'явіліся супрацоўнікі міліцыі. Іх сустракалі ледзь не апладысментамі. Але фанатаў у нашым вагоне ўжо не засталося (нядзіўна, праўда?). Дзяўчына слёзна прасіла суправадзіць наш вагон да Маладзечна, але міліцыя толькі змагла сказаць: «Прыедзем, складзём пратакол» і сышла. Нам неяк лягчэй не стала.

Да адной з нас, дзяўчат, прычапіўся адзін з тых фанатаў і спрабаваў весці з ёй «свецкую» гутарку. Хлопец дзяліўся, што «ненавідзіць неграў, цыган, хачаў».

На станцыі «Фестывальная» ў яго акно пастукалі яго «браты», ён крыкнуў ім: «Сустрэнемся на вакзале» і спакойна працягнуў размову.

На пероне нас не сустракала міліцыя, як бы нічога яна не абяцала. Толькі калі мы ўжо апынуліся каля самага вакзала, нас вяла дагналі два міліцыянты, спыталіся: «Ці не вы ехалі ў другім вагоне?» Атрымаўшы сцвярджальны адказ, дадалі: «А ці не вы да нас звярталіся?» Мы паказалі на кампанію, што рушыла наперадзе, што гэта яны. Супрацоўнікі міліцыі млява пайшлі да іх, магчыма, сведкі ім не так ужо былі і патрэбныя. Спадзяюся, хоць пратакол яны склалі, хоць вельмі слаба верыцца.

**Марыя**

# Вораг-жандар дакурыў папяросу…

**Ліст Сяргею Каваленку ад Сержука Вітушкі.**

Цвёрда трымаўся юнак на дапросе,
Тоячы словы і думкі свае.
Вораг-жандар дакурыў папяросу,
Бел-чырвон-белы сцяжок дастае.

– Вось і сцяжок твой, — сказаў ён ласкава, —
І ад яго на вачах у людзей
Ты адрачыся, выгодная справа,
Жыць застанешся, жыццё даражэй...

Адзін добры чалавек, каб даказаць самому сабе і ўсяму свету сваю праўду, галадаў сорак дзён. А ты што, хочаш быць лепшым за таго чалавека?

Касманаўт Кавалёнак збаяўся і публічна адрокся ад сцяга. Наступны раз не ён будзе запрошаны, каб унесці сцяг у Дом урада. Гэта павінен будзеш зрабіць ты. А таму пастарайся быць у форме і беражы здароўе.

**Сяржук Вітушка, Вільня**

# У Бабруйску русіфікавалі тралейбусы

**Расчараваннем для неабыякавых бабруйчан зрабіліся паездкі ў тралейбусах.**

Пры гэтым тралейбусы ў слаўным горадзе, як і раней, ходзяць спраўна, бабруйскія тралейбуснікі заўсёды дэманстравалі добрую працу, годны ўзровень абслугоўвання, ці не самы лепшы ў краіне. Аднак ужо пару тыдняў інфармацыя ў тралейбусах абвяшчаецца па-расейску.

З моманту з'яўлення абвестак прыпынкаў радыёінфарматарам тралейбусы «размаўлялі па-беларуску».

І вось да Вялікадня бабруйчане атрымалі «падарунак», відавочна звязаны з радзькоўскімі цыркулярамі. Пры гэтым, страчана не толькі мова, але і спецыфічны бабруйскі каларыт, любоўна ўкладзены ў абвесткі мінулай, беларускай, рэдакцыі. Уздымала настрой, паляпшала паездку, калі чуў такія фразы, з'інтанаваныя не без гумару, прыязні, невядомай жанчынай з прыемным голасам: «Сумленне — лепшы кантралёр», «Павага — лепшы падарунак» ці абсалютна бабруйскае, з дасціпнасцю і пазітыўнай прэзумпцыяй: «Каб пазбегнуць непрыемнай сустрэчы з кантралёрам, праверце, ці не забыліся Вы аплаціць праезд» (sic!).

Зараз усё суха, без лірычных адхіленняў, не вельмі пастаўленым голасам без аніякага ўяўлення пра культуру маўлення і на «опшчапанятнам». І гэта таксама цалкам пабабруйску, на жаль... Чарга за аўтобусамі, відаць...

Вось адрас бабруйскіх транспартнікаў: УКПП «Бабруйскае тралейбуснае ўпраўленне», 213822 г. Бабруйск, Мінская шаша, 144. Тэл. (0225) 43-44-30, 43-23-16. Факс (0225) 43-44-40. btu@tut.by.

**SR, Бабруйск**

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск.**
**e-mail: nn@nn.by.**
**Факс: (017) 284-73-29**

# Беларуская глыбіня. Перакласці Бога

Піша **Павел Севярынец.**

*На пачатку было Слова,*
*і Слова было ў Бога,*
*і Слова было Богам.*
*Евангелле паводле Яна, 1:1.*



**Павел Севярынец**
палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

«Ніц не буде, чаго вон кажэ!..»

У Пружанах як прамовяць — заслухаешся: што лексіка, што фанетыка.

Беларускія глыбіня, сумежжа Падляшша, Берасцейшчыны ды гістарычнай Літвы — неверагоднае бруенне беларускай, польскай, расійскай, украінскай, радзіма унікальных творцаў, спевакоў і... перакладчыкаў Біблії.

Тут быццам ажывае цуд Пяцідзясятніцы з Дзеяў Апостальскіх: «І з'явіліся ім языкі падзеленыя, як бы вогненныя, і апусціліся па адным на кожнага з іх, і напоўніліся ўсе Духам Святым, і пачалі гаварыць на іншых мовах, як Дух даваў ім вяшчаць».

Праз суткі міжмоўя, шмат'языкія кірмашы, адкуль крынічаць культуры і цэлыя цывілізацыі, Госпад прамаўляе да чалавецтва асаблівым чынам: вуснамі геніяў, такіх як Дастаеўскі, Міцкевіч, Сянкевіч ці Высоцкі; рухам падзеяў, накшалт найбольш паспяховай хрысціянскай уніі за тысячу гадоў расколу, антыалкагольнага руху, здольнага скалануць імперыю, ці развалу СССР, і, нарэшце, наўпрост — Словам. Перакладамі, пераліваміі, вытлумачэннямі Біблії, усімі адценнямі сэнсу, пакліканымі выявіць багацце, разнастайнасць і характво Божай ласкі — невымоўнай, але прамоўленай.

### Госпад прамаўляе асаблівым чынам: вуснамі геніяў

У ключавым для гісторыі ВКЛ 1563-м у старажытным Берасці, на месцы сённяшняй крэпасці, правадыром беларускай Рэфармацыі канцлерам Мікалаем Радзівілам Чорным была выдадзеная шыкоўная Біблія па-польску: найвядомейшыя навукоўцы таго часу перакладалі Святое Пісьмо са старажытнагабрэйскай ды грэцкай. Усе 738 старонак гатычнага шрыфту з 14 гравюрамі і віньеткамі, на якія Чорны выдаткаваў 10 тысячаў дукатаў? — гадавы даход усіх сваіх уладанняў — былі прызначаныя для распальвання Рэфармацыі ў Кароне. Гэта яе, Радзівілаўскую Біблію, сыны канцлера будуць скупляць па ягонай смерці, каб публічна паліць на плошчах, а друкарню прададуць езуіцкаму калегіуму.

Яшчэ адзін тутэйшы перакладчык Біблії — знакаміты баптысцкі пастар Лукаш Дзекуць-Малей. Хрышчаны на рацэ Супрасль пад Беластокам, калісьці арыштоўваны на Пружаншчыне за казань, заснавальнік евангельскай грамады ў Берасці, ён разам з Антонам Луцкевічам выдаў у 1931 «Новы Запавет і Псальмы», найперш дзеля пратэстанцкага руху Берасцейшчыны — і плён гэтай працы па сёння відаць у гушчыні тутэйшых цэркваў.

Якраз сюды, у пушчы, у савецкія часы хрысціяне таемна перапраўлялі шрыфты з Польшчы ды паперу са Скандынавіі, каб друкаваць Біблію для дзясяткаў народаў Саюза — парасейску, украінску, грузінску, асяцінску, удмурцку...

Ужо ў наш час Васіль Сёмуха, чуйны і адораны лінгвіст з пружанскага хутара Ясенец, да 2000 года пераклаў усё Святое Пісьмо ёмістай, смачнай літаратурнай мовай. Біблія Сёмухі, выдадзеная 10-тысячным накладам у 2002, дагэтуль застаецца самай пашыранай з беларускамоўных.

І ўсё-такі Беларусы, каторыz, атрымалі друкаваную Біблію на жывой мове народа трэцімі ў свеце, народ Скарыны, Цяпінскага, Федаровіча і Мсціслаўца — да цяпер, праз 500 гадоў, не маюць *аніводнага* канфесійнага, прызнанага, поўнага перакладу Святога Пісьма — толькі цэлы россып *непрызнаных*.

У 2017 Беларусь падыдзе да паўтысячагадовага юбілею Біблії Скарыны. З чым? Праца Біблійнай камісіі Беларускай Праваслаўнай Царквы і перакладчыкаў Касцёла далёкая да завяршэння. А беларусам так патрэбная Біблія на роднай мове!.. І не 10 тысячаў — 10 мільёнаў, кожнаму. Адзінае, шанаванае ўсімі хрысціянскімі канфесіямі Слова.

Гісторыя сведчыць, што менавіта ў такіх перакладаёмістых кутках — нямецка-французска-рэтараманамоўнай нейтральнай Швейцарыі, франка-фламандска-нямецкамоўнай Бельгіі, дзе былі надрукаваныя знакамітыя пратэстанцкая жэнеўская ці каталіцкая Брусэльская Біблії — магчымы прарывы агульнахрысціянскага маштабу.

Новы пераклад, выдадзены Беларускім Біблійным таварыствам сёлета, — вялікі крок да адзінай беларускай Біблії. Поліканфесійны — над ім працавалі і легендарны ксёндз Уладзіслаў Чарняўскі, і евангельскі пастар Антоній Бокун, і каталічка Жанна Некрашэвіч-Кароткая, і англіканскі тэолаг Джон Элвалд. Дапоўненая спасылкамі, табліцамі, мапамі, слоўнікам... Менавіта такую Біблію, з залатым цісненнем ды рубам, з клавіятурай закладак, мне падаравалі днямі прыхільнікі «залатой сярэдзіны» ў хрысціянскім адзінстве, грэка-каталікі. Менавіта такую Біблію маліто ўнікі з Чырвонага касцёла, аб'яднаныя ў праваабарончую групу «За Волю», перадалі на Вялікдзень кожнаму беларускаму палітвязню.

Для любога народа мова — пытанне жыцця і смерці: Творца даў кожнай нацыі не проста *набор словаў*, але святыню Слова. Бог — Слова. Які праз веру ўцелаўляецца, укрыжоўваецца і ўваскрасае ў нас, каб мы маглі дажыць да вечнасці.

Беларуская глыбіня, праз Касцёл і Польшчу адкрытая каталіцтву, праз Царкву і Расею — праваслаўю, праз евангельскія грамады Берасцейшчыны — пратэстанцкай Паўночнай Еўропе ды Штатам, край дзясяткаў таленавітых перакладчыкаў і паліглотаў, натуральны сплёт царкоўнаславяншчыны, лацiны, ідыша ды жывых моваў — ці не найлепшае месца для біблійнага руху сусветнага маштабу. Стварыць міжканфесійныя пераклады. Вырашаць спрэчныя пытанні тэалогіі. Вымяраць прадонні значэнняў... Вярнуць Беларусі славу еўрапейскай друкарні і бібліятэкі.

Ці не гэта пакліканне Сэрца Еўропы?... Той самай сучаснай Еўропы, што забыўліва шукае сваёй тоеснасці, нудзіцца, адфыркваецца ад глыбокіх ісцінаў — і ў наш нясцерпна балбатлівы інфармацыйны век усё-такі прагне, прагне Слова, Якое сталася целам — Ісуса Хрыста.

*Куплін*

# Калі б Балаховіч перамог

**Станіслаў Булак-Балаховіч вачыма прыстаўленага да яго польскага контрразведчыка — новая кніга на аснове палявых рапартаў.**



«Выглядае так, што Балаховіч любіў, каб **падуладныя называлі яго «бацькам»**, ды і сам неаднаразова паўтараў: «Я, бацька Балаховіч». «Па вашым закліку я, бацька Балаховіч, — гучала адна з першых ягоных лістовак, — устаў на чале сялянскіх атрадаў… Я дам вам зброю, дам адважных кіраўнікоў. Тысячы вашых сялян ідуць са мною; няма сілы, якая здолее зламаць гэтую вялікую народную сялянскую армію».

Калі чытаеш «Балахоўцаў» Ліса-Блонскага, прыгадваецца іншы твор з таго ж перыяду — «Конармія» Бабеля.

Аўтары-праціўнікі супадаюць у часе і амаль сутыкаюцца геаграфічна. Супрацоўнік ЧК, а пасля журналіст і камісар Ісак Бабель ішоў праз Украіну з Першай Коннай. Яго паэтычныя, але шчырыя нататкі пра дзікасці вайны выклікалі шалёны гнеў Будзёнага і незадаволенасць Сталіна, які казаў: «Бабель пісаў пра рэчы, якіх не разумеў».

Станіслаў Ліс-Блонскі — аўтар, які «разумеў». Юрыст, а пасля падпаручнік польскай вайсковай контрвыведкі, ён быў прызначаны ў Групу Балаховіча начальнікам дэфензівы падчас яе дзеянняў на савецка-польскім фронце летам-восенню 1920 года.

Гэта быў час Палескага пахода Расейскай народнай добраахвотніцкай арміі на чале з генералам Станіславам Булак-Балаховічам. Палітычнае кіраўніцтва акцыяй ажыццяўляў старшыня Расейскага палітычнага камітэта Барыс Савінкаў. Планавалася, што паход, падтрыманы Пілсудскім, узніме сялянаў на барацьбу з бальшавікамі. Балахоўцы гналі чырвоных да Мазыра, дзе генерал абвясціў сябе «начальнікам Беларускай дзяржавы». Пасля контрнаступу чырвоных войскі Балаховіча адышлі за польскую лінію фронта і былі раззброеныя.

Прыгладжаныя, ідэалагічна вывераныя ўспаміны Блонскага былі напісаны ў другой палове 1930-х. Зусім іншае — у яго палявых рапартах.

«Мы паставілі Ліса-Блонскага супраць Ліса-Блонскага, змясціўшы пад адной вокладкай яго ўспаміны 1930-х гадоў, дзе вобраз Балаховіча амаль агіяграфічны, і яго рапарты 1920-га года, якія малады афіцэр пісаў па свежых слядах, у жаху ад таго, што бачыў, і прасіў камандаванне забраць яго ад балахоўцаў», — кажа адзін з укладальнікаў, гісторык Андрэй Вашкевіч.

У запісках Блонскага і Бабеля шмат падобнага: крывавыя рэаліі, драпежніцкая логіка ваяроў, беды мірнага насельніцтва. «Не проста падобнага — ідэнтычнага, — удакладняе Вашкевіч. — Парадаксальна, але часам складаецца ўражанне, што ў грамадзянскай вайне найменшы ўдзел бралі жыхары тых тэрыторый, на якіх яна адбывалася. Татары, казакі, каўказцы, калмыкі, палякі Балаховіча ваявалі супраць венграў, чэхаў, кітайцаў Чырвонага войска».



Ліс-Блонскі, Станіслаў. Балахоўцы. — Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства; Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2012. — 225 с. Пераклад, прадмова, каментары: Андрэй Вашкевіч, Андрэй Чарнякевіч.

### Узаемны інтарэс

Ёсць два ідэалагічныя міфы пра Балаховіча. Першы — савецкі. Пра балахоўцаў як банду злачынцаў і белагвардзейцаў, якім процістаялі высокадухоўныя чырвонаармейцы. Другі — рамантычны. Пра «беларускага генерала-патрыёта». Кім быў Балаховіч насамрэч?

На беларускіх далягладах ён з'явіўся ўвосень 1919. Скончалася вайна з бальшавікамі ў Прыбалтыцы, у якой атрад Балаховіча браў удзел. Войска заставалася без сродкаў. Ідэя наняць балахоўцаў на беларускую службу належала кіраўніку Вайскова-дыпламатычнай місіі БНР Кастусю Езавітаву. Ён за вельмі хутка давёў Балаховічу, што той — беларус. Іх зацікаўленасць была ўзаемнай. Урад БНР быў тады ўрадам без тэрыторыі. Балаховіч мог адваяваць для яго краіну. «З прыходам Балаховіча беларусы ператвараліся ў рэальную палітычную сілу. Хто ведае: калі б Радзе БНР удалося знайсці мільён марак, неабходны для паходу беларускага войска на Полацк — магчыма, гісторыя пайшла б зусім іначай», — кажа Вашкевіч.

Толькі за свой пераход на беларускі бок Балаховіч прасіў 400 тысяч марак: войска неабходна карміць. Езавітаў стукаўся ва ўсе дзверы. Укладзеныя сродкі вярнуліся б: абяцала дапамагчы Антанта, калі б БНР займела хоць нейкую тэрыторыю — стала сапраўднай дзяржавай. Аднак — прамарудзілі. Ужо ў лютым 1920 атрад Балаховіча ўвайшоў у склад польскіх фармаванняў і перамясціўся ў Брэст.

### Пасьянс Пілсудскага

З Балаховіча спрабавалі ляпіць свайго героя палітыкі ўсіх станаў — бальшавікі, з якімі ён пачынаў у 1918-м, белы генерал Юдзеніч, нясправўджаны прэзідэнт «Трэцяй Расіі» Савінкаў, Аляксюк з самазванага мазырскага ўрада БНР. А што наконт ідэнтычнасці самога Балаховіча? Ці была яго беларускасць глыбіннай, ці залежала ад патрэбы моманту?

Афіцэр і беларус Мікола Дзямідаў называў службу ў атрадах Балаховіча «найлепшым часам жыцця». А Дзямідаў меў багаты досвед: быў беларускім вайсковым камендантам Гродна, арганізоўваў Беларускі полк, пасля быў сярод правадыроў Слуцкага паўстання. Беларускім афіцэрам падабалася перамагаць пад кіраўніцтвам геніяльнага тактыка Балаховіча. Яны стварылі нацыянальныя фармаванні ў складзе яго войска і верылі, што ваююць за сваю краіну. Бо, агітуючы за «вызваленне Расіі», Балаховіч не пакідаў і беларускіх лозунгаў.

Начальнік польскай дзяржавы Юзаф Пілсудскі быў вялікі аматар пасьянсу і заўжды рыхтаваў некалькі варыянтаў на кожны магчымы паварот падзей. Якія планы ён меў на Балаховіча — не змаглі адказаць нават самыя мацёрыя даследчыкі.. У сітуацыі польска-бальшавіцкай вайны 1920-га ён хіба ўсё ж такі вырашыў, што расійская карта мацнейшая за беларускую, і запрасіў у Варшаву таварыша па гімназіі, эсэра-тэрарыста Барыса Савінкава. Утвараецца «Расейскі палітычны камітэт», пачынаюць фармавацца антыбальшавіцкія атрады для змагання за «Трэцюю Расію» — не чырвоную, не белую, а дэмакратычную. Кулаком гэтага войска мелася стаць дывізія Балаховіча.

### «Узброены супраціў яўрэяў»

Пасля быў Лістападаўскі паход на Усходняе Палессе 1920-га. У часе яго адбыліся тыя пагромы, за якія Балаховіч доўгія гады змушаны быў апраўдвацца. «Антысемітызм яго войска быў фантастычны», — кажа Вашкевіч. Ліс-Блонскі з першых старонак кнігі настойліва падкрэслівае, што габрэі ваявалі ў Балаховічавых атрадах (адсюль, відаць, легенда пра «габрэйскі швадрон»), а пагромаў... не было: тыя габрэі, што пацярпелі, аказвалі ўзброены супраціў. Аднак гэтаму супярэчаць нават ранейшыя рапарты таго ж Блонскага, у якіх адкрываецца шырокая карціна гвалту і забойстваў у Тураве, Мазыры, Камені-Кашырскім.

Антысемітызм не быў афіцыйнай ідэалогіяй балахоўцаў. Сказваўся недахоп дысцыпліны ў крымінализаванай вольніцы, вялікарускі шавінізм казакоў і папушчальніцтва бацькі Балаховіча, які на многае заплюшчваў вочы: «Хай пагуляюць».

### Кандацьер XX стагоддзя

Яго войска не было кадравым. Самай дзейснай мерай дысцыплінарнага ўздзеяння ў ім быў стрэл у галаву. Балаховіча, кажа Вашкевіч, хутчэй можна параўнаць з кандацьерамі — правадырамі наёмных атрадаў у сярэднявечнай Італіі, якія самі вербавалі і распускалі ваяроў, самі ім плацілі і чынілі самі суд і расправу. Дарэчы, аўтар гэтага параўнання, гісторык Юрась Юркевіч зараз рыхтуе кнігу пра службу Балаховіча ў Балтыі ў 1918 — 1919 гадах.

Часам кандацьеры бралі ўладу ў гарадах, якія іх наймалі на службу. Ці быў палітычны шанец у «бацькі»?

**Станіслаў Булак-Балаховіч**

нар. у 1883 у Мейштах (цяпер Браслаўскі раён). Беларускі вайсковы дзеяч. Ад 1914 – на Першай сусветнай вайне. Ад пачатку 1918 – у Чырвонай арміі, стварыў Лускі партызанскі полк, у лістападзе 1918 перайшоў да белых. Ад лістапада 1919 — на службе БНР. Полк Балаховіча як Асобны атрад, займаў фронт між эстонскай і латышскай арміямі. У сакавіку 1920 з дазволу польскіх уладаў полк пераведзены ў Брэст. У лістападзе 1920 ажыццявіў паход на Усходняе Палессе. У 1920—30-я жыў у Польшчы, узначальваў ветэранскія арганізацыі. У 1937—39 ваяваў у Іспаніі на баку Франка. Забіты невядомымі ў Варшаве ў 1940.

Той паход на Гомель слаба суадносіўся з інтарэсамі Беларусі. Савінкаў планаваў развіць яго ў паход на Маскву. І вайсковы патэнцыял балахоўцаў, які мог паспрыяць стварэнню беларускай дзяржавы, быў утаптаны ў палескія балоты. Паход скончыўся бясслаўным адступленнем, пасля якога балахоўцы перасталі існаваць як вайсковая сіла, а Беларусь рассек напалам Рыжскі мір 1921-га.

А калі б, замест Гомеля, Балаховіч павярнуў на Случчыну, дзе разгаралася паўстанне, на Менск?

### «Белая Русь» белых афіцэраў

Магчыма тады, у выніку больш актыўнага вайсковага супраціву бальшавікам, беларусы атрымалі б дзяржаву. «Бальшавікам важнай была Украіна, — кажа Вашкевіч. — Украіна — гэта мацярык. Страціць яе або здабыць — гэта было пытанне выжывання Савецкай Расіі. Беларусь для іх мела меншае значэнне. Яны былі гатовыя аддаць яе палякам аж па Бярэзіну». Калі б іначай склалася палітычная кан'юнктура, магчыма, Беларусь зрабілася б буфернай краінай між Другой Рэччу Паспалітай і РСФСР».

Дзіўная гэта была б Беларусь. У ёй галоўнай палітычнай сілай мусілі стаць царскія афіцэры з іх вялікарускай ідэалогіяй, іншыя «цёмных дарог махляры» і былыя служкі Расійскай імперыі, якія ненавідзелі ўсё беларускае. А фінансавала б тую «Белую Русь» такая ж ненавісная ім Польшча. Напэўна лёс многіх беларускіх дзеячоў, якія пасля загінулі ў сталінскіх лагерах, быў бы незайздросны і ў гэтай дзяржаве.

Тая буферная дзяржава была б змеценая Другой сусветнай. «Але сам факт існавання дзяржавы тады пабярог бы сучасную беларускую дзяржаўнасць ад сённяшніх хвароб палітычнага сталення», — кажуць укладальнікі кнігі.

**Сяргей Мікулевіч**

**За пераход на беларускі бок Балаховіч прасіў 400 тысяч марак »**

# У Хельсінкі з фінскім трэнерам




Птушка Angry Birds з камп'ютарных гульняў стала талісманам першынства.

Ад 4 да 20 мая ў Фінляндыі і Швецыі адбудзецца **Чэмпіянат свету па хакеі**.

Упершыню ад 1930 першынства адбудзецца ў некалькіх краінах адначасова. Фінляндыя і Швецыя заслужылі праводзіць чэмпіянаты 2012 і 2013 адпаведна. Аднак потым суседзі дамовіліся паміж сабой і вырашылі правесці іх сумесна. Таму і налета наймацнейшыя зборныя свету збяруцца ў Скандынавіі.

Новая таксама сёлета і схема правядзення. Замест ранейшых чатырох груп па чатыры каманды, будуць дзве васьмёркі. Беларусы, якія на сёння займаюцца адзінаццаты радок у хакейным рэйтынгу, будуць гуляць у групе А на «Хартвал-Арэне» (Хельсінкі).

Разам з намі трапіліся чэмпіёны свету і гаспадары Фінляндыя, родапачынальнікі хакея з Канады, іх суседзі з ЗША, адвечныя супернікі Швейцарыя і Славакія, а таксама Францыя і Казахстан.

У групе B у Стакгольме падужаюцца Расія, Швецыя, Чэхія, Германія, Нарвегія, Латвія, Данія і Італія.

Летась беларусы змаглі захаваць прапіску ў эліце толькі ў апошняй сустрэчы. Таму змяніўся трэнер. Замест беларуса Эдуарда Занкаўца, каманду даверылі фіну Кары Хейкеля, ён нядаўна ўзначаліў і мінскае «Дынама». Для Хейкеля чэмпіянат будзе асаблівы, бо гуляць давядзецца дома.

**Расклад гульняў** зборнай Беларусі такі:
**4 мая:** Беларусь — Фінляндыя. Пачатак у 20:15.
**6 мая:** Швейцарыя — Беларусь. Пачатак у 20:15.
**8 мая**: Беларусь — Казахстан. Пачатак у 16:15.
**10 мая:** ЗША — Беларусь. Пачатак у 16:15.
**12 мая:** Славакія — Беларусь. Пачатак у 12:15.
**14 мая:** Беларусь — Францыя. Пачатак у 16:15.
**15 мая:** Канада — Беларусь. Пачатак у 12:15.

Па чатыры наймацнейшыя каманды з групы выйдуць у стадыю плэй-оф. Зборная, што зойме апошняе месца, вылятае з элітнага дывізіёна.

**Зміцер Панкавец**

## СПОРТ

### 9 тур

**7 мая** адбудуцца матчы дзявятага тура футбольнага чэмпіяната Беларусі. Сустракаюцца:
«Белшына» (Бабруйск) — «Славія» (Мазыр).
«Брэст» — «Гомель».
БАТЭ (Барысаў) — «Нафтан» (Наваполацк).
«Нёман» (Гродна) — «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна).
«Дынама» (Мінск) — «Шахцёр» (Салігорск).

### Кубак Hill's 2012

**5 мая** 2012 года на Сямашкі, 17а (каля вады) ў 9.30 пачнуцца спаборніцтвы па бясснежных відах ездавога спорту (гонкі на сабачых запрэжках) «Кубак Hill's 2012». 30 спартоўцаў з Беларусі выйдуць на дыстанцыі 1 і 3 км у класах: карт, скутар, байкджорынг, канікрос, а таксама ў класе для самых маленькіх «хэпі-дог».

## ІМПРЭЗЫ

### Bosch Рэтра-Мінск 2012

**5—6 мая** пройдзе 5 міжнародны фестываль рэтра аўтамабіляў «Bosch Рэтра-Мінск 2012».
«Bosch Рэтра-Мінск 2012» — унікальны фестываль, на якім можна ўбачыць найрэдкія аўтамабілі, што сталі сімваламі свайго часу.
**5 мая а 11-й** — экспазіцыя рэтрааўтамабіляў каля Плошчы Перамогі, а 12-й — пераезд да Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, а 13-й — экспазіцыя аўтамабіляў каля бібліятэкі, у 14.40 — экспазіцыя аўтамабіляў каля Палаца спорту.
А 17-й аўтамабілі праз увесь Мінск паедуць да Лініі Сталіна, дзе **6 мая з 11-й** працягнецца фестываль.

### Папараць-кветка

**З 2 да 6 мая ў Мінску і Нясвіжы** — VII Міжнародны форум студэнцкіх хораў «Папараць-кветка».
**2 мая а 19-й у к/з «Верхні горад» (пл.Свабоды, 25)** — юбілейны канцэрт Народнай харавой капэлы БДУ.
**3 мая ў 19.30 у Архікатэдральным касцёле Найсвяцейшай Панны Марыі (пл.Свабоды, 9)** — канцэрт духоўнай музыкі.
**4 мая а 18-й у Нясвіжы** — канцэрт свецкай музыкі.
**5 мая а 18-й у к/з «Верхні горад»** — гала-канцэрт.
Уваход вольны.

## КАНЦЭРТЫ

### Князь Мышкін

**3 мая ў 19.30 у майстэрні З.Азгура** гурт «Князь Мышкін» правядзе «Вялікі вясенні канцэрт».

### Сплін

**4 мая а 19-й у к/з «Мінск»** — гурт «Сплін» з праграмай «Акустыка ў Горадзе».

### Арыя

**5 мая а 19-й у к/з «Мінск»** — гурт «Арыя» з прэзентацыяй альбома «Фенікс».

### Дапамажы дзецям разам з намі-2

**11 мая а 18-й у клубе Re:Public** — дабрачынны канцэрт «Дапамажы дзецям разам з намі-2». Возьмуць удзел: «Адзіс Абеба», «Пятля прыстрасці» ды іншыя.

### Апокрыф

**15 мая а 19-й у Вялікай канцэртнай зале філармоніі** — мюзікл-прытча кампазітара Ларысы Сімаковіч «Апокрыф».

### S°unduk

**17 мая а 20-й у Jack Club (Няміга,12)** — S°unduk.



**Vinsent**
9 мая а 19-й у клубе Re:public (Прытыцкага, 62) — Vinsent запрашае на свой вялікі сольны канцэрт.

## ВЫСТАВЫ

### Беларускі кірмаш

**З 9 да 13 мая у павільёне НВЦ «Бел-Экспа» (Я. Купалы, 27)** пройдзе выстава «Беларускі кірмаш». На выставе будуць прадстаўленыя прадукты харчавання, вопратка і абутак, сувеніры, біжутэрыя, парфума і касметыка, тэкстыль, тавары штодзённага попыту.

### Іосіф Лангбард

**Да 14 мая ў Мастацкім музеі** працуе выстава, прысвечаная Іосіфу Лангбарду (1882–1951). На выставе Лангбард упершыню паказаны не толькі выбітным архітэктарам, але і мастаком.

### Рэакцыя на чужое

**Да 16 мая ў галерэі сучаснага мастацтва «Ў»** працуе выстава скетчаў і занатовак Аляксея Талстога «Рэакцыя на чужое». Жывапіс, графіка, тэксты, музычныя праекты Аляксея Талстога — усё ствараецца ім у роўнай ступені трапна і паспяхова.




## ТЭАТРЫ

### 3 мая

**Лялек** — «Чаму старэюць людзі?»
**Юнага гледача** — «Мой бедны Марат»
**Оперы і балета** — «Вяселле Фігара»
**Беларускай драматургіі** — «Янка Купала. Кругі раю»

### 4 мая

**Лялек** — «Марынка-крапіўніца».
**Юнага гледача** — «Вандраванне ў княства Сноў»
**Беларускай драматургіі** — «Ліфт»
**Купалаўскі** — «Офіс»
**Оперы і балета** — «Лебядзінае возера»

### 5 мая

**Лялек** — «Прыгоды Пін-Піна»
**Юнага гледача** — «Дзюймовачка»
**Юнага гледача** — «Пан міністр».
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»
**Оперы і балета** — «Алека. Балеро»

### 6 мая

**Лялек** — «Піпі-Доўгаяпанчоха»
**Юнага гледача** — «Тры парсючкі»
**Купалаўскі** — «Сымон-музыка»

### 7 мая

**Купалаўскі** — «Самотны захад»
**Беларускай драматургіі** — «Нязваны госць»

### 8 мая

**Беларускай драматургіі** — «Шчаслівы муж»

### 9 мая

**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»

### 10 мая

**Лялек** — «Марозка»
**Лялек** — «Балада пра белую вішню»
**Юнага гледача** — «Майго юнацтва крылы»
**Купалаўскі** — «Старамодная камедыя»
**Беларускай драматургіі** — «Карусель»

### 11 мая

**Юнага гледача** — «Ліса і вінаград»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»
**Лялек** — «Вянчанне»
**Купалаўскі** — «Вечар»

### 12 мая

**Юнага гледача** — «Кот у ботах»
**Лялек** — «Марозка»
**Беларускай драматургіі** — «Янка Купала. Кругі раю»
**Купалаўскі** — «Каханне ў стылі барока»

### 13 мая

**Лялек** — «Чароўная лямпа Аладзіна»
**Купалаўскі** — «Людзі на балоце».

### 14 мая

**Купалаўскі** — «Людзі на балоце»
**Беларускай драматургіі** — «Мужчыны на мяжы нервовага зрыву»

### 15 мая

**Беларускай драматургіі** — «Сталіца Эраўнд»
**Оперы і балета** — «Анюта»

## КІНО

### Прыгоды Эдгара По

**Крумкач (The Raven)**
ЗША — Венгрыя — Іспанія, 2012, каляровы, 111 хв.
**Рэжысёр:** Джэймс МакЦіг
**Ролі выконваюць:** Джон К'юсак, Эліс Іў, Люк Эванс, Брэндан Глісан, Кевін МакНэлі
**Жанр:** Гатычны дэтэктыў
**Адзнака:** 5,5 (з 10)

У Балтымары з'яўляецца серыйны маньяк, які натхняецца творамі Эдгара Алана По. Толькі сам пісьменнік здольны разгадаць тайну злачынцы, знайсці і выкрыць яго.

Стужка Джэймса МакЦіга — зусім не біяграфічная карціна пра апошнія дні слыннага пісьменніка. Гэта вольнае дэтэктыўнае практыкаванне, дзе мастацкая выдумка натхняе забойцу, падказкі — у кашмарах паэта, а ў чырвоных сутарэннях замураваныя трупы.

Эдгар По — адзін з самых ірацыянальных і загадкавых аўтараў, творы якога неаднойчы экранізаваліся. Фільм — сухаваты пералік «злачынстваў» Эдгара По: «Маска Чырвонае смерці», «Сэрца-выкрывальнік», «Крумкач», акраплены крывавымі кадрамі. Жорсткасць гэных кадраў не характэрная для «падлеткавага» Галівуда. І хаця замест кінапаэзіі атрымалася бухгалтарская справаздача, яна па-свойму не нудная.

**Андрэй Расінскі**



# «Гарызонт» прэзентаваў планшэты

Усе тры — **кітайскай вытворчасці**.

Флагман беларускай IT-прамысловасці — холдынг «Гарызонт» — прэзентаваў на выставе высокіх тэхналогій ТІБО-2012, якая працавала ў мінскім Футбольным манежы, тры ўласныя планшэтныя камп'ютары. Гэта HT9109B з экранам 10″ пашырэннем 1024×600, працэсарам з тактавай частатой 1 Ггц, 512 МБ аператыўнай памяці, 1,3-мегапіксэльнай камерай; HT9115 з матрыцай 9,7″ і падобнымі характарыстыкамі; а таксама HT9106 з экранам 10″, працэсарам 800 Мгц і АЗП 256 МБ. Першыя дзве прылады працуюць пад кіраўніцтвам Android 2.2, апошняе — на Android 2.3.

Зразумела, было б занадта наіўна чакаць, што «Гарызонт» узяўся хоць бы за зборачную вытворчасць «таблетак».

Наведнікам ТІБО-2012 быў паказаны чарговы прыклад імпартазамяшчэння дзеля імпартазамяшчэння — літаральнае выкананне патрабавання ўрада асвоіць «вытворчасць» на беларускай зямлі. У такім выпадку «Гарызонту» выгадна было не арганізоўваць зборку, а па старой добрай традыцыі накупляць налепак — для справаздачы ўладам гэтага цалкам дастаткова.

Беглае «гугленне» паказала, што «Гарызонт» нават не знайшоў час змяніць індэкс noname-планшэта з Паднябеснай. Напрыклад, HT9109B — гэта кодавая назва Flytouch 3 (які часам прадаецца на кітайскіх барахолках як Superpad). Такая ж схема і ў астатніх «Гарызонтаў».

На жаль, ні цана, ні дата пачатку продажаў не абвешчаныя. Успамінаючы лёс цуда-апаратаў «Еўратэф», можна выказаць здагадку, што партыі прылад будуць мікраскапічнымі, цэны — завышанымі, а цыкл продажаў — максімальна кароткім.

Мала таго што планшэты з заяўленымі характарыстыкамі не актуальныя ў 2012 годзе, дык яшчэ і сапраўднае кітайскае іх паходжанне адпудзіць патэнцыйных пакупнікоў.

Onliner.by



# У чым сіла, Стас?

**Сакрэты папулярнасці Стаса Міхайлава**: скупая мужчынская сляза, квасны патрыятызм і рыфма «себя — меня».

Падчас мінскага канцэрта Стаса Міхайлава ДАІ была вымушана ўзмацніць кантроль на пад'ездзе да «Мінск-Арэны» — расейскі спявак-шансанье сабраў такую поўную залу, што куды там Стынгу ці Элтану Джону, якія калісь там выступалі.

У чым феномен гэтага чалавека, томна-рэстаранны голас якога гучыць з кожнага праса, чые дыскі трапляюць у чарты квадратна-гнездавым метадам (па пяць-шэсць запар), пра чыё існаванне ведаюць нават прафесары кансерваторыі? Чаму папулярнасць спевака, якому, дарэчы, нядаўна споўнілася 43, пашыраецца як вірус?

Па-першае, Стас Міхайлаў — гэта шансон. А шансон ва Усходняй Еўропе — як брыт-поп на Брытанскіх выспах.

Па-другое, гэты шансон не пра турму, што пашырае кола слухачоў. Не кожная адважыцца ўключыць «Мурку» на дзявочым вечары. А Міхайлаў пяе пра каханне, сяброўства. Патрэцяе, яго музыка простая як тры капейкі і «перастраховаць» яе могуць абсалютна ўсе (каго не званітуе пасля першага куплета).

Дастаткова паглядзець на назвы песняў любога альбома (яны прыблізна аднолькавыя): «Жизнь-река», «Мир без тебя», «Брату», «Моя любовь», «Душа», і каму яшчэ не зразумела, на закуску — «Герой России».

Мяшанка са скупой мужчынскай слязы, кваснога патрыятызму, высокага голаса і тэкстаў з рыфмай «себя — меня» б'е ў яблычак — мэтавая аўдыторыя Міхайлава ахопленая. Для жанчын — пра каханне, для мужчын — пра Расію. За дваццаць гадоў музычнай кар'еры, якая пачалася ў Сочы, Міхайлаў зразумеў, чаго хоча публіка. А тое, што на сцэне стаіць не Мік Джагер, а звычайны мужык, трошкі лысаваты, трошкі паўнаваты, толькі дапамагае іміджу «ў дошку свайго».

Гэта, ведаеце, як сусед, які, калі яго папросіш, пад баян спявае. Ён свой, а галоўнае — душэўна. Па Міхайлаву можна вывяраць ментальнасць: прашыбае на слязу — выціскай з сябе «саўка».

Юрась Ускоў



## Беёнсэ — самая прыгожая на планеце

Часопіс People абвясціў 30-гадовую спявачку ў стылі R'n'B, жонку саўладальніка баскетбольнага клуба «Нью-Джэрсі Нетс» Джэя Зі Беёнсэ самай прыгожай жанчынай планеты.

Сама ж красуня сціпла заўважыла, што з'яўленне першынца дае ёй самы магутны стымул у жыцці: «Зараз я пачуваюся больш прыгожай, чым калі-небудзь, бо я падарыла жыццё. Я яшчэ ніколі не адчувала сябе настолькі мэтанакіраванай, настолькі звязанай з гэтым светам».

Сямён Цыбульскі



# Асцярожна — кляшчы

У канцы красавіка — пачатку мая ў Беларусі прачынаюцца кляшчы і рэзка ўзрастае колькасць іх ахвяраў. Гэтыя насякомыя з'яўляюцца пераносчыкамі такіх хваробаў, як лайм-барэліёз і клешчавы энцэфаліт. Выходзячы на прыроду, трэба максімальна закрываць цела адзеннем. Кожную гадзіну-дзве варта аглядаць адкрытыя ўчасткі цела. Калі выяўлены клешч, то можна выдаліць яго самастойна, а месца ўкусу апрацаваць растворам з утрыманнем спірту. Калі выдаліць крывасмока не атрымліваецца, трэба звярнуцца ў траўмапункт ці паліклініку па месцы жыхарства. У любым выпадку неабходна пракансультавацца з урачом адносна прафілактыкі інфекцый, якія пераносяць кляшчы.

**Культура. Рознае**

# Стартаваў фестываль беларускамоўнай рэкламы AD.NAK

Узяць удзел у фэсце **можа кожны**.

27 красавіка пачаўся Трэці фестываль беларускамоўнай рэкламы AD.NAK. Нават калі вы не прафесіянал, але заўжды марылі стварыць крэатыўную рэкламу на беларускай мове, — ёсць магчымасць зарэгістравацца на сайце adnak.by ў якасці ўдзельніка і адправіць свае працы на разгляд журы.

Азнаёміцца з намінацыямі, у якіх сёлета давядзецца змагацца ўдзельнікам, можна на сайце фэсту — усяго іх адзінаццаць. Ёсць нават узнагарода за найгоршы рэкламы праект, якім летась была прызнаная «Шакаладная Хатынь». Вынікі будуць падведзеныя 5 ліпеня.

Ладзяць фестываль культурніцкая кампанія «Будзьма беларусамі!» і праект Marketing.by. 55 % беларусаў хочуць бачыць менавіта беларускамоўную рэкламу, — такія вынікі апошніх сацапытанняў. А вось айчынныя вытворцы яшчэ не да канца ўсвядомілі, што рэклама пабеларуску не толькі дадае ёй пэўную «разынку», але і цалкам натуральна выглядае.

Ці стане рэклама на беларускай мове моднай? Замежныя кампаніі часцей за айчынныя настойваюць на стварэнні ролікаў, плакатаў і іншай рэкламы на мове краіны, у якую прыходзяць.

Магчыма, вынікі Трэцяга фэсту AD.NAK дадуць беларускім кампаніям стымул замаўляць менавіта беларускую рэкламу, бо па якасці яна не саступае рэкламе расейскамоўнай, а часам бывае куды болей крэатыўнай.

На першы фэст прыйшло 105 працаў, на другі — 272. Відаць, і сёлета выбіраць будзе з чаго.

ЮУ



Моладзь у бел-чырвона-белых масках на канцэрце «Салідарныя з Беларуссю» ў Варшаве.



**Малады мядзведзь выпадкова зайшоў на тэрыторыю ўніверсітэцкага кампуса ў штаце Каларада. Спалохаліся не толькі студэнты, але і звер, які залез на дрэва. Праўда, злезці самастойна не мог. Давялося страляць у яго ін'екцыямі са снатворным. Калі лекі падзейнічалі, то медзведзяня звалілася проста на загадзя пасцелены матрац.**

**Паважаныя чытачы, наступны нумар «НН» выйдзе ў сераду 16 мая. Саджайце бульбу найлепшых гатункаў!**



У Мінску прайшоў «Беларускі тыдзень моды».



Школьніца з пасёлка Кастрычніцкі Ксенія Дзягелька, якая займела шалёную папулярнасць у інтэрнэце, калі туды трапіў запіс яе песні «Я із деревні», перамагла на абласным конкурсе «Лідар года — 2012» у Гомелі. Артыстычная Ксеня паедзе ў Мінск на фінал.

## Анекдоты

* * *

Пытанне Ашмянскаму радыё: чаму беларусы жывуць не па сродках?

Адказ: каб жыць па сродках, трэба іх мець!

* * *

Шчырліц ішоў завулкам і заўважыў, як маляр зафарбоўвае брыдкія словы, напісаныя на плоце.

— Мадэратар, — падумаў Шчырліц.

* * *

Чыноўнікі зачынілі адно прыватнае выдавецтва. Яго кіраўнік прыходзіць на прыём да міністра і пытаецца: за што?

— Я разумею, кажа міністр, каб палепшыць продажы кніг, вы сталі іх ілюстраваць партрэтамі чыноўнікаў. Вось кнігу Быкава «У тумане» вы праілюстравалі фотам сустрэчы старшыні Нацбанка з прадстаўнікамі МВФ — мы вам даравалі. Калі кнігу «Міколка-паравоз» вы праілюстравалі фотаздымкам з урачыстага пуску швейцарскай электрычкі — мы вам даравалі таксама. Але, прабачце, калі на кнігу «Алі-баба і сорак разбойнікаў» змясцілі фота пасяджэння ўрада...

* * *

Даішнік, які выпадкова спыніў картэж Лукашэнкі, кінуўся на зямлю і прыкінуўся бервяном.

* * *

Завод алкагольнай прадукцыі пасля кансультацый з Інстытутам гісторыі прыступае да выпуску партвейну: «Аўгуст Моцны» і портару «Мікалай Радзівіл Чорны».

* * *

Машына часу ўсё ж існуе: людзі зноў глядзяць «Тытанік», скупляюць акцыі МММ, а Лукашэнка — прэзідэнт.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Хатынь, Лагойская воласць.** У нядзелю (9/IV) быў тут пажар якраз у поўдзень. Наўшчэнт згарэў селянін Мірыновіч. Нават скаціна якая была, і тая згарэла. Выскачыў сам з дзецьмі ў адных кашулях.

**«НН». №17. 1912.**

**Сяргей Дубавец:** Давялося пахаваць старогастарога сябра, Ігара Герменчука. Некалі мы разам паступалі ва ўніверсітэт, разам даходзілі да свядомага жыцця і ўсё, што ні рабілі, выглядала, робім разам. Сварыліся шмат менавіта таму, што кожны адчуваў адказнасць за працу кожнага. У кожнага была свая газета, але я заўсёды пачуваўся рэдактарам ягонай, а ён — маёй. Гэта натуральна, бо ўсведамленне і прафесійны кшталт абодвух былі нібы з аднаго яйка.

**«НН». №17. 2002.**


Наша Ніва

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8003. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 01.05.2012.
Замова № 1886.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614
9 771819 161008 12017